





# ТАТАРЫ
# НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

**4.1992**

Салям алейкум, спадары і спадарыні,
супляменнікі-татары і браты-мусульмане !

Позняя восень і пачатак зімы парадавалі толькі аматараў-паляўнічых і рыбакоў. Але такіх сярод татараў вельмі мала. Адбывалася рэзкае пагаршэнне матэрыяльнага становішча. Вельмі засмуціў нас закон "Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь". Гэты закон дазваляе тое, што ніколі і так не забаранялася. Нашы прапановы на стадыі абмеркавання закона не былі ўлічаны. Як сказаў адзін пажылы татарын, да гэтага акта папературворчасці падыходзіць старадаўні выраз: "Гара нарадзіла мыш".

Не чуваць добрых звестак пра стварэнне татарскіх сем"яў, пра нарадзіны. Толькі смерць павадзілася ў нашы хаты.

Ідзе падрыхтоўка да навукова-практычнай канферэнцыі, якую арганізуюць Менскі педагагічны інстытут, Менскі гарадскі і абласны фонд культуры, Згуртаванне татараў-мусульман на Беларусі "Аль-Кітаб". Канферэнцыя прысвечана 600-годдзю асадніцтва татараў-мусульман на землях Беларуска-Літоўскай дзяржавы ( Вялікага княства Літоўскага ). Рэгістрацыя ўдзельнікаў канферэнцыі пачнецца а 9-й гадзіне 26-га сакавіка 1993 г. у актавай зале Менскага педагагічнага інстытута, які знаходзіцца каля плошчы Незалежнасці. Ужо атрымана больш за 30 дакладаў і заявак на даклады. Спадзяемся, што ўсе здаровыя татары Менска і наваколля прыйдуць і прымуць удзел у гэтым незабыўным мерапрыемстве.

Ідучы насустрач пажаданням нашых чытачоў, мы пачынаем друкаваць у "Байраме" можа і невялікую, але сапраўдную гісторыю нашага народа. Тут будуць праўдзівыя расказы нашых людзей пра тое, што яны бачылі самі, або пра тое, што яны чулі ад сваіх бацькоў і дзядоў — сведак мінулага. Такім чынам, памяць наша будзе сягаць да таго часу, калі яшчэ быў прыгон. Яшчэ ёсць жывыя людзі, якія памятаюць першую сусветную вайну і бежанства. Толькі трэба іх выслухаць і запісаць.

Напрыканцы можам парадаваць добрымі весткамі: рэгулярна праводзяцца заняткі па вывучэнні арабскай граматы і Ісламу ў Менску і Іўі.

Якуб Якубоўскі

БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

ДА ЎСІХ МУСУЛЬМАН, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ У МЕНСКУ,
ДА ЎСІХ МУСУЛЬМАН, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ НА БЕЛАРУСІ

Грамадзяне мусульмане і мусульманкі, людзі добрыя !

Мы, мусульманская абшчына ў Менску, звяртаемся да ўсіх мусульман, якія жывуць у Менску і на Беларусі за дапамогай. Мы хочам адбудаваць мячэць, якая была разбурана ў пачатку 1960-х гадоў.

Некаторыя мусульмане яшчэ памятуюць, што стаяла яна на Вялікай Татарскай вуліцы, цяпер праспект Машэрава, на месцы гасцініцы "Юбілейная".

Што такое мячэць для мусульманіна –– знаюць усе. Цяпер на Беларусі дзейнічае толькі адна мячэць у Іўі Гродзенскай вобласці. Каб хоць адзін раз у год, на вялікае свята памаліцца ў мячэці, трэба ехаць некалькі гадзін, а цяпер яшчэ і за вялікую плату, недаступную многім.

Амаль тры тысячы татараў-мусульман, якія жывуць у Менску, больш за тысячу мусульман з іншых былых саюзных і аўтаномных рэспублік, студэнты замежных краін, перш за ўсе арабы, супрацоўнікі пасольстваў з мусульманскіх краін –– усе зацікаўлены ў тым, каб у Менску ўвесь час дзейнічала мусульманская саборная мячэць.

Магчыма знойдуцца багатыя і добрыя кіраўнікі дзяржаў, кампаній і фірм, якія могуць аказаць дапамогу ў будаўніцтве мячэці. Толькі мы, татары, не можам быць пасіўнымі, павінны самі збіраць сродкі на будаўніцтва. Нашы памерлыя продкі адчуюць палёгку, што яшчэ не згінула ў душах татар-мусульман вера ў Аллага. Нашы нашчадкі, перш за ўсё дзеці, унукі і праўнукі, парадуюцца, што іх бацькі, дзяды і прадзеды таксама ўдзельнічалі ў адбудове Менскай мячэці. Ужо распрацоўваецца праект мячэці, якая будзе падобнай на тую, што была раней.

Мусульмане! Памятайце, што да кожнага прыйдзе часіна, калі чалавеку ўжо не трэба ніякіх матэрыяльных каштоўнасцей, калі чалавек робіць падрахунак: а што добрае я зрабіў у сваім жыцці ?

Кожны можа зрабіць хоць што-небудзь карыснае, хоць бы даць свой запрацаваны грош у адбудову Менскай мячэці.

Вашы ахвяраванні на будаўніцтва мусульманскага храма можна пералічыць на разліковы рублёвы рахунак Мусульманскай рэлігійнай абшчыны ў г.Менску № 701902 у Мінскбізнесбанку. Код банка 153001739, можна зрабіць памету "Будаўніцтва мячэці".

Валютны рахунак 201070555 у Мінскбізнесбанку.

Даведкі па тэлефонах: 66-36-98; 26-86-43



МЕНСКАЯ МЯЧЭЦЬ. Праект рэканструкцыі
Архітэктары: Б.Аляксандраў, Ул.Трацэўскі
Мастак: Ул.Шынкевіч

# К У Р' А Н

## Сура Аль-Імран
## ( сям"я Імрана )

1. У імя Аллага, Міласцівага, Міласэрнага.

2. Аліф Лам Мім.

3. Аллаг ёсць Бог і апрача Яго няма Бога, Бог жывы, Самасутны, Бог Усётрымальнік.

4. Ён паслаў табе Кнігу, у якой ёсць ісціна і якая сцвярджае тое, што папярэднічала ёй; а раней Ён паслаў Тору і Евангелле як павучанне людзям; і Ён паслаў Распазнанне.

5. Безумоўна, тыя, што аспрэчваюць знакі Аллага, панясуць суровую кару; і Магутны Аллаг мае ўладу аддаваць належнае.

6. Сапраўды, нічога на зямлі і на небе не схавана ад Аллага.

7. Ён стварае вас ва ўтробах па волі Сваей; няма Бога, апрача Яго, Магутнага, Мудрага.

8. Ён паслаў табе Кнігу; ёсць у ёй вершы, сэнс якіх бясспрэчны — яны аснова Кнігі — і ёсць іншыя, якія можна разумець па-рознаму У каго сэрцы разбэшчаны, выбіраюць тыя, якія разумеюцца па-рознаму, шукаючы разладу і няпраўдзівага тлумачэння іх. І ніхто не ведае сапраўднага тлумачэння іх, апрача Аллага і тых, што цвёрда ведаюць і што гавораць: "Мы верым у яе ( Кнігу ), уся яна паходзіць ад Уладыкі нашага", і ніхто не разумее, апрача тых, каму даравана разуменне.

9. "Уладыка наш, не дай разбэсціцца сэрцам нашым пасля таго, як Ты даў нам кірунак; і падаруй нам міласэрнасць Тваю, сапраўды, Ты адзін, Хто Даруе.

10. "Уладыка наш, сапраўды, ты збярэш разам увесь род чалавечы ў Дзень, у якім няма сумнення; сапраўды, Аллаг не парушае абяцання свайго."

والحرث ذلك متاع الحيوة الدنيا والله عنده حسن الماب ۝ ١٤

قل اؤنبئكم بخير من ذلكم للذين اتقوا عند ربهم جنت

تجري من تحتها الانهر خلدين فيها وازواج مطهرة ورضوان

من الله والله بصير بالعباد ۝ ١٥ الذين يقولون ربنا اننا

امنا فاغفر لنا ذنوبنا وقنا عذاب النار ۝ ١٦ الصبرين

والصدقين والقنتين والمنفقين والمستغفرين بالاسحار ۝ ١٧

شهد الله انه لا اله الا هو والملئكة واولوا العلم قائما

بالقسط لا اله الا هو العزيز الحكيم ۝ ١٨ ان الدين عند الله

الاسلم وما اختلف الذين اوتوا الكتب الا من بعد ما جاءهم

العلم بغيا بينهم ومن يكفر بايت الله فان الله سريع الحساب ۝ ١٩

فان حاجوك فقل اسلمت وجهي لله ومن اتبعن وقل للذين

اوتوا الكتب والاميين ءاسلمتم فان اسلموا فقد اهتدوا وان

تولوا فانما عليك البلغ والله بصير بالعباد ۝ ٢٠ ان الذين

يكفرون بايت الله ويقتلون النبين بغير حق ويقتلون

الذين يامرون بالقسط من الناس فبشرهم بعذاب اليم ۝ ٢١

Кур"ан. Сура Аль-Імран, аяты І5 — 20.

II. Тыя, што не вераць не будуць мець ніякай карысці ад Аллага, не збавіць іх ні іх маёмасць, ні іх дзеці — яны па́ліва для агню.

I2. Падобны яны да народа Фараона і да тых, хто быў перад імі; яны не прынялі знакаў Нашых; таму Аллаг пакараў іх за грахі іх; суровы Аллаг у кары Сваёй.

I3. Скажы няверным: "Будзеце вы пераможаны і зрынуты у пекла; і месца адпачынку ёсць месца тое".

I4. Праўдзівы для вас быў знак, калі два войскі біліся адно з адным, адно змагалася у імя Аллага, а другое — войска няверных, якія бачылі на уласныя вочы, што тое войска было ў два разы большае за іх войска. Так умацоўвае Аллаг Сваёю дапамогаю, каго захоча Ён. Сапраўды, гэта урок тым, хто мае вочы.

I5. Прыхарошана для людзей любоў да усяго жаданага — да жанчыны і дзяцей і да гораў намножанага золата і серабра, і да коней і жывёлы на пашы, і да ніваў іх. Усё гэта — даброты сённяшняга жыцця; але найцудоўнейшае жыццё у Аллаха.

I6.Скажы: "Паведаміць мне вам пра нешта лепшае за гэта ?" Для тых, хто баіцца Бога, прыгатаваны у іх Уладыкі сады, па якіх цякуць рэкі, і там яны будуць жыць . І будуць там шчатлівыя сяброўкі і спрыянне Аллага. І Аллаг не забывае слуг Сваіх;

I7. Тых, што кажуць: "Уладыка наш, верым мы, і даруй нам грахі нашы і выратуй нас ад Вогненнай кары

I8. Цвёрдых, праўдзівых, пакорных, тых, што даюць міласціну ў шлях Аллага, і тых, што просяць даравання у позняю пару ночы.

I9. Аллаг сведчыць, што няма Бога, апрача Яго; пра гэта сведчаць і анёлы, і тыя, хто ведае — Ён апора справядлівасці; няма Бога апрача Яго, Магутнага, Мудрага.

20. Бясспрэчна, ісцінная вера у Аллага — гэта Іслам. І тыя, каму была дадзена Кніга, упалі ў рознагалоссе ад зайздрасці адзін да аднаго. І калі хто адвяргае знакі Аллага, то, сапраўды, хуткі Аллаг, калі трэба каго прыцягнуць да адказнасці.

21. Але калі яны спрачаюцца з табою, скажы: "Я скараюся Аллагу і скараюцца тыя, што ідуць за мной". І скажы і тым, каму дадзена Кніга і недасведчаным: "Ці скарыліся вы ?". Калі яны скараюцца, то сапраўды, будуць навучаны, але калі яны павернуць назад, то твой абавязак перадаць пасланне; і Аллаг пільна сочыць за слугамі сваімі.

22. Сапраўды, тым, што адмаўляюць знакі Аллага і шукаюць, як забіць Прарока, імкнуцца забіваць людзей і клічуць да справядлівасці — паведамі ім пра пакутлівую кару.

23. Гэта тыя, чые справы ні да чаго добрага не давядуць ні сёння, ні ў будучым, і не будзе у іх памочнікаў.

24. Хіба ты не ведаеш пра тых, каму дадзена іх частка Кнігі ? Іх клічуць да Кнігі Аллага, каб яна магла іх рассудзіць, але некаторыя з іх адварочваюцца з агідаю.

25. І гэта таму, што яны кажуць: "Агонь не дакранецца да нас, хіба можа толькі на некалькі дзён". Яны хлусілі, і хлусня вярнулася да іх.

26. Што ж будзе з намі, калі Мы збяром іх усіх разам у Дзень, у якім ніхто не сумняваецца, калі кожнай душы аддасца спаўна па заслугах яе, і не будзе ніхто пакрыўджаны ?

27. Скажы:"О,Аллаг, Уладыка Усяўладны. Ты даеш уладу, каму захочаш, і Ты адбіраеш уладу, у каго хочаш. Ты ўзвялічваеш, каго захочаш, і прыніжаеш, каго захочаш. Усё добрае у руцэ Тваей. Сапраўды, Ты маеш уладу рабіць усё.

28. Ты прымушаеш ноч змяняцца днём і прымушаеш дзень змяняцца ноччу. І ўтвараеш Ты усё жывое з мёртвага і мёртвае з жывога. І Ты надорваеш без меры таго, каго хочаш.

29. І хай не бяруць вернікі нявернікаў у сябры сабе замест вернікаў, і ўсякі, хто робіць гэта, не мае сувязі з Аллагам —

хіба толькі з асцярогаю ахоўваючы сябе ад іх. І Аллаг папярэджвае вас пра пакаранне Сваё; і да Аллага — вяртанне.

30. Скажы: "Утойваеце вы, што ў сэрцах вашых, ці адкрываеце гэта — Аллаг ведае ўсё; і ведае Ён усё, што ёсць на нябёсах, і ўсё, што ёсць на зямлі; і ў Аллага ўлада рабіць усё.

31. Сцеражыцеся Дня, калі кожная душа сустрэне твар у твар усё добрае, зробленае ёю і ўсё благое, зробленае ёю. І захоча яна, каб далёка было тое благое ад яе. І Аллаг папярэджвае пра пакаранне Сваё. І Аллаг Уселітасцівы да слуг Сваіх.

32. Скажы:"Калі вы палюбілі Аллага, ідзіце за Ім, тады Аллаг палюбіць Вас і даруе грахі вашы" і Аллаг Уседаравальны, Міласэрны.

33. Скажы: "Падпарадкуйцеся Аллагу і Пасланцу Яго", але калі яны адвернуцца ад яго, тады помні, што Аллах не спрыяе няверным.

34. Аллаг выбраў Адама і Ноя і род Абрама і род Імрана, больш за іншыя народы, —

35. Род, звязаны адзін з адным. І Аллаг — Усячуйны, Усяведны.

36. Помні, як жанчына з роду Імрана сказала: "Уладыка мой, я дала Табе абяцанне аддаць на служэнне Табе тое, што нашу ва ўтробе сваёй, дык прымі гэта ад мяне. Ты адзін — Усячуйны, Усяведны.

37. Але калі яна нарадзіла, яна сказала: "Уладыка мой, я нарадзіла дзіця жаночага полу"— Аллаг ведае лепш, што нарадзіла яна: мужчынскі пол не тое, што жаночы. "І я назвала яе Марыяй, і я аддаю яе і нашчадкаў яе пад Тваю апеку і абарону ад д'ябла адрынутага".

38. Такім чынам, Уладыка прыняў яе ласкава і дасканала выгадаваў яе і аддаў Захарыю, каб ахоўваў яе. І кожны раз, калі Захарыя наведваў яе ў пакоі, ён знаходзіў у яе прыпасы.

Ён пытаў: "О, Марыя, адкуль гэта ў цябе ?". Яна адказвала: "Гэта — ад Аллага". Сапраўды, Аллаг надзяляе без меры ўсякага, каго Ён хоча.

39. У той жа час Захарыя памаліўся Уладыку свайму, гаворачы: "Падаруй мне ад Сябе плод чысты. Сапраўды, Ты адгукаешся на малітву.

40. І анёлы звярнуліся да яго ў час яго малітвы ў пакоі яго: "Аллаг пасылае табе добрую вестку пра Іах"я ( Іаана Хрысціцеля ), які засведчыў ісціну слова Аллагава — пра высакароднага, цнатлівага, пра прарока аднаго, з асяроддзя праведнікаў".

41. Ён сказаў: "Уладыка мой, як я магу мець сына, калі я ўжо стары і жонка мая бясплодная ?" Ён адказаў: "Такія шляхі Аллага; Ён робіць тое, што Яму трэба".

42. Ён сказаў: "Уладыка мой, дай мне знак". Ён адказаў: "Знакам табе будзе тое, што не будзеш ты гаварыць з людзьмі тры дні, хіба толькі знакамі. Помні Уладыку твайго і ўслаўляй Яго і вечарам і ранкам".

43. І помні, што анелы сказалі: О, Марыя, Аллаг выбраў цябе, і ачысціў цябе, і паставіў цябе вышэй за ўсіх жонак усіх народаў".

44. "О, Марыя, падпарадкуйся Уладыку твайму, і ўпадзі ніц, і пакланяйся Аллагу Адзінаму разам з тымі, хто пакланяецца.

45. Гэта ёсць паведамленне пра нябачнае, якое Мы адкрываем табе. І не было цябе з імі, калі яны кінулі стрэлы свае, каму з іх быць ахоўнікам Марыі, і не было цябе з імі таксама, калі яны спрачаліся".

46. Тады анёл сказаў: "О, Марыя, Аллаг шле табе добрую вестку пра Слова ад Яго; імя яго будзе Месія, Ісус, сын Марыі, паважаны ў гэтым свеце і ў будучым, з тым, каму даравана блізкасць да Аллага".

47. "І ён будзе гаварыць народу ў калысцы сваей, і ў сталыя гады, і ён будзе адным з праведнікаў".

48. Яна сказала: "Уладыка мой, як магу я мець сына, калі ніводны мужчына не дакранаўся да мяне". Ён сказаў: "Такі шлях Аллага. Ён робіць тое, што Яму пажадана.
Калі Ён рашае што-небудзь, Ён гаворыць таму: "Будзь" — і яно ёсць.

49. І навучыць Ён яго і Кнізе, і Мудрасці, і Торы, і Евангеллю.

50. І зробіць яго Пасланцом для сыноў Ізраіля ( каб ён сказаў ім ): "Я прыйшоў да вас са знакам ад Уладыкі вашага, і Знак гэты такі: я зраблю для вас з гліны нешта падобнае на птушку і тады ўдыхну ў яго дух новы і будзе яно стварэннем, што лятае па волі Аллага; і я буду лячыць сляпых і пракажоных і ўваскрашаць мёртвых па волі Аллага; я вярну вам тое, што вам трэба і што трэба запасіць у дамах вашых. Сапраўды, у гэтым ёсць знак для вас, калі вы верыце.

51. І я прыходжу выконваць тое, што было раней за мяне, а іменна Тору; і каб дазволіць вам штосьці з таго, што было забаронена вам; і я прыходжу да вас са знакам ад Уладыкі вашага, дык бойцеся Аллага і падпарадкуйцеся мне".

52. Сапраўды, Аллаг мой Уладыка і ваш Уладыка; дык падпарадкоўвайцеся Яму: гэта ёсць шлях праўдзівы".

53. І калі Ісус заўважыў іх няверʼе, ён сказаў: "Хто будзе памочнікам мне ў служэнні Аллаху, мы паверым у Аллага. І будзь ты сведкам, што падпарадкоўваемся мы".

54. "Уладыка наш, мы верым у тое, што ты пасланы, і мы ідзем за Пасланцам гэтым. Дык залічы нас у сведкі".

55. І яны мудравалі, і Аллаг таксама мудраваў, і Аллаг вышэй за ўсіх тых, хто мудраваў.

56. Калі Аллаг сказаў: "О, Ісус, Я зраблю так, што ты памрэш сваей смерцю, і я забяру цябе да Сябе, і абараню цябе ад няверных, і ўзвышу паслядоўнікаў тваіх над няверными да дня ўваскрасення; тады да Мяне вернецеся вы, і Я развяжу, у чым разыходзіцеся вы.

57. "А што да няверных, Я пакараю іх суроваю карай у гэтым свеце і ў будучым, і не будзе ў іх памочнікаў".

58. А што да тых, што вераць і робяць добрыя справы, то Ён верне ім спаўна. І Аллаг не спрые тым, хто робіць зло.

59. Вось што паведамляем Мы табе са знакаў і з мудрага напаміну.

60. Сапраўды, перад Аллагам падобны Ісус на Адама. Ён стварыў Яго ( Адама ) з праху, і Ён сказаў яму: "Будзь", і ён стаў.

61. Гэта ёсць ісціна, што ідзе ад уладыкі Нашага, дык не будзь жа адным з тых, хто сумняваецца.

62. Калі хто паспрачаецца з табой пасля таго, як атрымаў ты гэта вучэнне, скажы яму: "Пойдзем, паклічам сыноў нашых і вашых, і жонак нашых і вашых, і народ наш і ваш; і пасля прачытаем гарачую малітву, і наклічам клятву Аллага на лгуноў".

63. Сапраўды, гэта праўдзівае апавяданне. Няма нічога дастойнага пакланення, апрача Аллага; і сапраўды, Магутны і Мудры Аллаг.

64. Але калі яны адвернуцца, помні, што Аллаг добра ведае, хто чыніць разлад.

65. Скажы: "О, людзі, маючы Кнігу, прыйдзіце да Слова, агульнага паміж намі і вамі; не пакланяемся мы нікому, апрача Аллага, і не раўняем нікога з Ім; і не прымаем іншых уладык, апрача Аллага". Але калі яны адвернуцца, тады скажы: "Будзьце сведкамі, што мы пакарыліся Аллагу".

( Працяг будзе )

## ЭТЫЧНЫЯ НОРМЫ ЛІТОЎСКІХ ТАТАРАЎ

Цяпер, калі дачакаліся польскага перакладу Кур"ана, які ажыццявіў Юзаф Бляўскі, можна звярнуць увагу на этычныя нормы, якія былі абавязковымі і абавязковыя цяпер у старадаўняй і цяперашняй Польшчы татараў — вызнаўцаў Ісламу.

Ужо з найстарадаўнейшых пераказах і рэляцыях, прысвечаных жыццю татарскага насельніцтва, знаходзім нярэдка даволі вялікія заўвагі аб этычным узроўні гэтай нацыянальнай групы. Пасланнік караля Зыгмунта Аўгуста накіраваўся ў сярэдзіне XVI ст. на Крым, дзе бываў сярод татараў, а адтуль, як вядома, паходзяць польска-літоўскія татары. Міхась Літвін, бо такі узяў псеўданім гэты пасланец, зрабіў асабістыя назіранні на тэму паўсядзённага жыцця перакопскіх татараў. Свае апісанні, заўвагі і разважанні ўвечніў у форме пераказу, які атрымаў назву "Дэ морыбус Тартарорум, Літуанорум эт Масхорум", а менавіта "Аб татарскіх, літоўскіх і маскоўскіх звычках". На падставе аўтарскага рукапісу яго змест быў надрукаваны па-лацінску ў Базелі ( Швейцарыя ) у 1615 годзе.

Пры чытанні гэтага твора даведаемся шмат цікавага і падрабязнага, якое датычыцца, між іншым, таксама маральных бакоў татарскага насельніцтва. Вось, напрыклад, ужо з самага пачатку, пасля кароткага гістарычнага ўступу, аўтар звяртае ўвагу на вытрымку ў баі і уменне пераносіць без скаргі ўсякія нягоды, што гаворыць аб высокай маральнасці гэтых людзей. Хоць, як тут гаворыцца, "многія з іх трацяць амаль усё, аднак ніхто не ўмірае з голаду і не гіне ад холаду. Ніхто таксама не жабруе, хоць не раз церпіць ад недахопу. Сапраўды, рэдка знойдзеш у іх асяроддзі чалавека, які вядзе марнатраўны лад жыцця, а з другога боку, няма і такіх, якім галодная смерць заглядала ў вочы. Не трапляюцца сярод іх ашуканцы, папрашайкі, крывадушныя сведкі, несправядлівыя суддзі, адступнікі ад сваей веры, злодзеі ці забойцы. Паміж сабою свята трымаюцца справядлівасці і міру, аддаючы кожнаму ўсё, што яму па праву належыць".

На суддзяў, як кажа далей аўтар, не глядзяць як на людзей, якія карыстаюцца з лёгкага заробку, але выконваюць свае абавязкі згодна з наказам Аллага. Працягваючы далей разважанне

на тэму судоў, аўтар кажа літаральна наступнае: "Тым самым рашэннням суда, гэта значыць суда, які выконваюць выбраныя народам кадзіі, падлягаюць усе без вынятку — і багатыя, і правадыры, і просты народ". Далей аўтар сцвярджае: "Падобная рэч у час ваенных паходаў, не толькі маюць ежу з аднаго катла, але нават адзін перад другім спяшаюцца, каб услужыць старэйшаму векам ці слабейшаму, нямогламу". Далей падкрэсліваецца ветлівасць і гасціннасць, якая аказваецца нават зусім чужым асобам. Падарожным даецца начлег і ахова. У адносінах паміж жонкай і мужам пануе вернасць. Праўда, гэта адносіцца ў першую чаргу да кабет, якія у выпадку здрады бываюць караныя нават смерцю.

Досыць абшырныя фрагменты названага твора адносяцца да сферы пытанняў маралі і, як бачым, яны пахвальна гучаць з вуснаў староннята назіральніка і могуць выклікаць пытанне, што з'яўляецца прычынай такога стану рэчаў. Дык вось, крыніц этычных нормаў шукаць належыць у першую чаргу ў вызнаванай татарскім народам мусульманскай рэлігіі. Вернікі-мусульмане поўнасцю падпарадкоўваюцца этычным нормам Кур"ана і ў рэлігійным праве. Бо Іслам, як рэдка якая рэлігійная сістэма, нармуе штодзённае жыццё сваіх вернікаў. У мусульманскай рэлігійнай сістэме утвораны нават спецыяльны раздзел веры аб этычных нормах, які называецца па-арабску ільм аль-агляк, або "навука пра маральнасць", а больш дакладна "навука пра характар". Не лішне будзе сказаць, што мусульманская этыка пераняла пэўныя элементы старажытных грэкаў, у асаблівасці Платона і Арыстотэля. Акрамя таго, многа этычных асноў, якія дзейнічалі раней, яшчэ ў даісламскай маральнасці арабаў-бедуінаў, у якіх панаваў маральны кодэкс пад назвай мурувва, які ставіў на першае месца такія рысы характару, як дзелавітасць, рыцарства, шляхетнасць, вялікадушша, гасціннасць . Усё гэта ўвайшло ў вялікай ступені да этычных нормаў Ісламу, змешчаных у Кур"ане і звязанай з ім традыцыі. Так, напрыклад, сказана: "Аказвайце дабразычлівасць сваім бацькам і родным, будзьце добрымі для сірот і бедных і для тых, якія знаходзяцца пад вашай апекай: ці гэта будуць родныя ці чужыя, а таксама для таварышаў па працы, а тасама нявольнікаў". Варта таксама ўспомніць, што па мусульманскіх духоўных поглядах адступленне ад этычных нормаў лічылася за хваробу душы, а маралізатараў прыраўноўвалі да лекараў, якія дбалі аб здароўі сваіх пацыентаў.

Татарскае насельніцтва ў Польшчы прыбыло — згодна з гістарычнай традыцыяй — у большасці з Крыма і прычарнаморскіх стэпаў ужо як вернікі Ісламу і ўжо тады вылучалася выкананнем этычных нормаў згодна з кананічным мусульманскім правам ( шарыятам ). Татары, якія жывуць у Рэчы Паспалітай, трымаюцца даўніх маральных традыцый, якія прывезлі з Усходу, падобна як і іх суплямённікі ў Крыме.

Першы вялікі пераказ гісторыі пра жыццё нашых татараў паходзіць з палавіны XVI ст., а больш дакладна з 1558 года. Гэта ананімная рэляцыя, загаловак якой гучыць Рызале-і-татар-і-Лех" ( "Трактат пра польскіх татар " ). Аўтар названага трактата невядомы нам па прозвішчу татарын, які здзяйсняў хадж да святых месцаў і па дарозе затрымаўся на некалькі месяцаў у Стамбуле. Тут па просьбе вяльможаў з палаца султана зрабіў справаздачу аб жыцці сваіх адзінаверцаў— польска-літоўскіх татараў. Гэты трактат быў прызначаны візіру Рустаму-пашы, які перадаў яго султану Сулейману Пышліваму.

У названым трактаце таксама знаходзім абшырныя фрагменты на тэму, якая цікавіць нас. Польскі пераклад трактата перадаў у друк усходазнавец Антон Мухлінскі ў 1858 г. пад назвай "Паведамленне пра літоўскіх татараў". Аўтар трактата, прадстаўляючы агульную сітуацыю сваіх родзічаў у далекім Лехістане, сцвярджае, між іншым, наступнае ( цытуецца па перакладу А.Мухлінскага ): "Трэба аддаць справядлівасць нашым землякам, што не здрадзілі ніколі свайму краю: на вайне неслі ахвотна сваё жыццё, а ў мірны час у сваей гаспадарцы працавіта і пачціва займаліся гаспадарствам і промысламі. Рэч Паспалітая тады адзначала іх працавітых і адважных згодна з даўнімі прывілеямі за паслугі рыцарскія і прыкладныя паводзіны, .. раўняла іх са шляхтай ў грамадскіх адносінах, хатнім жыцці ..." Як бачым, гаворка тут ідзе як пра час вайны, так і мірны час.

У іншым месцы аўтар трактата прыводзіць словы самога караля: "Калі пэўнага часу — кажа аўтар — прыехаў кароль да нашага краю, бачыў я сам, як прадстаўлены яму былі усе значныя грамадзяне. Прызваўшы да сябе нашых бекаў, хваліў перад усімі прысутнымі веру і вернасць мусульманаў, кажучы наступныя словы: " Люблю іх і іх рэлігію, бо грунтуецца яна на чыстаце навукі і звычаяў". Далей у трактаце сказана: "Землі, якія мы маем,

такой самай прыроды, як і у краях султана: яны былі нам дадзены каралямі за ваенныя справы і карыстаемся мы імі з поўнай свабодай, як і мясцовыя уладальнікі". У каралеўскім прывілеі, даным у Гародні у 1568 г. былі гарантаваны, як бы мы сказалі сёння, поўныя грамадзянскія правы для татараў.

Не бракуе у пазнейшых, больш блізкіх да нас часоў тут і там сведчанняў асноў этыкі татарскай людн асці. Вось, напрыклад, славуты паэт і празаік мінулага стагоддзя Уладыслаў Сыракомля ( сапраўднае імя Людвік Кандратовіч ) пакінуў у сваіх "Выцечках па Літве" такія нататкі аб наведаных ім татарскіх сядзібах і людзях, якія там жылі: "З дарогі бачная татарская сядзіба Афіндзевічы дае нам магчымасць сказаць пару слоў аб татарскіх сядзібах у гэтай старане. Пераможаныя у баі ( тут Сыракомля паўтарае пашыраную тады, але далёкую ад рэчаіснасці інфармацыю, што першыя пасяленцы-татары былі палоннікамі. Яны пасяліліся у Літве па дамове хана Тахтамыша з Вітаўтам — заўвага рэд. ) і асаджаныя пры Вітаўце на Літве татары, не мяняючы веры сваіх бацькоў, прыжыліся добра у грамадстве, сярод якой абставіны заставілі іх жыць. Працуючы агароднікамі, гарбарствам і возніцтвам, а хвалячы Аллага звычаем сваім іх азіяцкіх продкаў, адзначыліся спакойным характарам, умеранасцю і працай. Забаронены Алькур"анам напітак віно, перанесены прававерным і на гарэлку, зрабіў іх больш цвярозымі ад мясцовага насельніцтва. А вернасць іх да радзімы раўнялася нярэдка гераізму". Можна яшчэ дадаць думку знанага са сваіх навуковых прац Тадэвуша Чацкага, які у працы, прысвечанай татарам, так піша пра вытокі этычных нормаў гэтай народнасці: "Святая кніга Аль-Кур"ан, кананічныя кнігі і простая развага падаюцца як правілы, якія татары з ахвотай выконваюць".

Высокая ступень маральнасці, якая знаходзіцца сваімі каранямі у вызнаванай імі рэлігіі, і лягла у аснову прыхільных адносін улад як каралеўскай, так і рэспубліканскай Польшчы.

# МУСУЛЬМАНСКІЯ МЯЧЭЦІ
## НА ТЭРЫТОРЫІ ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯГА КРАЮ *

Трэці раздзел Рэчы Паспалітай у 1795 г. кардынальна змяніў геапалітычную сітуацыю ў буйным рэгіёне Усходняй Еўропы і, натуральна, зрабіў уплыў на становішча этнічных груп, інтэграваных у феадальнае грамадства былой літоўска-польскай дзяржавы. Сярод іх апынулася мусульманская абшчына, якая ў большасці сваей складалася з літоўскіх татар, што насялялі некалі былыя стратэгічныя рубяжы Вялікага княства Літоўскага. У канцы ХУШ — пачатку XIX ст. геаграфічная карта рассялення татар уяўляла сабою некалькі зменены арэал традыцыйных пасяленняў, вядомых у ХУІ — ХУП стагоддзях. Пад уплывам розных фактараў гэта тэрыторыя на працягу некалькіх стагоддзяў то пашыралася, то звужалася, але пры гэтым захоўвала свае асноўныя контуры. Гаворка ідзе аб засяроджаным размяшчэнні, а не пра адзінкавыя выпадкі перамяшчэння сямей за межы пэўнага кола. Пасля частых адміністрацыйна-тэрытарыяльных пераўтварэнняў Паўночна-Заходняга краю ён выглядаў наступным чынам: у сярэдзіне XIX ст. татары насялялі ( вядома, складалі толькі невялікую частку ўсяго насельніцтва ) Віленскі, Вілейскі, Лідскі, Ашмянскі, Свянцянскі паветы Віленскай губерні, Гродзенскі, Слонімскі, Беластоцкі, Сакольскі, Бельскі паветы Гродзенскай губерні, Ігуменскі, Навагрудскі і Слуцкі паветы Менскай губерні, Ковенскі і Новааляксандраўскі паветы Ковенскай губерні. Невялікая колькасць татар заставалася ў старых татарскіх пасяленнях Валынскай і Падольскай губерняў.

У азначаным рэгіёне адпаведна фарміравалася сетка мусульманскіх мячэцяў, якія ядналі вакол сябе падзеленую на джаміяты ( парафіі, прыходы ) татарскую абшчыну. Месца існавання мячэці як бы азначала пункт значнага засялення татар, таму факт яе зберажэння і дзейнасці дазваляла лічыць наяўнасць традыцыйных сувязяў татар з пэўнай мясцовасцю. У XIX ст. гэтыя сувязі пастаянна парушаліся, узнікалі новыя, што адлюстравалася на змяненні сеткі мусульманскіх мячэцяў.

Мэта гэтай публікацыі — растлумачыць прычыны захавання і змянення сеткі мячэцяў у XIX ст.

У канцы ХУШ ст. мусульманская канфесія мела ўжо ўшчупленую

сетку мячэцяў у параўнанні з папярэднім стагоддзем. У Трокскім павеце дзейнічалі Рэйжаўская,Саракататарская, Вінкупішская і Прудзянская ( разбурана французскімі войскамі у 1812 г. ) мячэці, а таксама у Віленскім павеце — Лукішкаўская ( прадмесце Вільні ) і Немежская недалёка ад Вільні.У Лідскім павеце была Некрашунская, у Ашмянскім — Даўбуцішская, у Навагрудскім — Лоўчыцкая і Навагрудская, у Гродзенскім — Багонікская і Крушнянская, у Брэст-Літоўскім — Студзянкаўская. З канца 16 ст.была мячэць у Менску.

Усе мячэці, за выключэннем Прудзянскай, дзейнічалі да першай сусветнай вайны, а большасць з іх ( Студзянкаўская спалена у першую сусветную вайну, у 1915 г., Менская зачынена савецкай уладай ) згуртоўвалі вернікаў-мусульман.

У XIX ст. спіс мячэцяў мусульманскай канфесіі папоўніўся новымі, якія паявіліся у нетрадыцыйных месцах пасялення татар. Для таго, каб зразумець сістэму фарміравання новай сеткі мячэцяў, трэба звярнуцца да прынцыпаў падпарадкавання, дзейнасці і матэрыяльнай падтрымкі мусульманскай канфесіі, пашыранай у гэтым рэгіёне.

Тут існавала мясцовая мусульманская абшчына з рэгулярным упарадкаваннем. Яе правы і статус вызначаліся юрыдычнымі нормамі былой літоўска-польскай дзяржавы, перанятымі пазней Расійскай імперыяй, а таксама захоўвалі некаторыя рысы мусульманскай традыцыі.

Пытанне аб падпарадкаванні мясцовых мусульман вышэйшаму канфесійнаму органу ставілася некалькі разоў. У 1803 г. літоўскія татары адмовіліся падпарадкоўвацца Арэнбургскаму муфтэю, матывуючы гэта асаблівасцю свайго становішча з моцы прывілеяў, якія былі ім дадзены польскімі каралямі, дзе іх пытанне аб канфесійным падпарадкаванні наогул не ўзнімалася. Тады яны былі пакінуты кіравацца самастойна. У 1831 г. ў сувязі з агульнымі пераўтварэннямі ў краі, выклікаными рэакцыяй імперскіх улад на паўстанне, літоўскія татары былі падпарадкаваны Таўрычаскаму магаметанскаму духоўнаму праўленню і заставаліся пад яго наглядам да ўтварэння ва Усходняй Еўропе самастойных дзяржаў пасля першай сусветнай вайны. Гэта падпарадкаванне насіла фармальны характар: сваіх прадстаўнікоў у Сімферопаль літоўскія татары не пасылалі і звярталіся да яго выключна ў выпадках, якія датычылі

зацвярджэння імамаў і пацвярджэння выпісак з метрычных кніг.

Мусульманская абшчына літоўскіх татар была давволі простая. У ёй супадалі рэлігійныя і грамадскія функцыі. Сход джаміяту ( парафіян ) выбіраў муцівілеяў — патранат мячэці з ліку найбольш паважаных прыхажан, якія клапаціліся пра ўсе справы абшчыны, а таксама выбіралі імама ( хатыба, муллу ) і мязіма ( муэдзіна ), якія зацвярджаліся губернскім праўленнем, а пазней у Сімферопалі.

Паколькі ў літоўскіх мусульман не было афіцыйнай рэлігійнай школы, гэту пасаду займаў звычайна чалавек, знаёмы з рэлігійнымі рытуаламі і абрадамі, які ўмеў чытаць Кур"ан. Імам таксама выконваў абавязкі казённага чыноўніка і атрымліваў пэўныя сродкі на ўтрыманне ад казны.

Будаўніцтва і ўтрыманне мячэцяў было справай джамітаў. Мячэці стаялі і паяўляліся на землях, якія называлі вакуфамі — падораных заможнымі мусульманамі, а грошы для узвядзення мусульманскага храма збіралі з мусульманскіх сямей.

Імперскія ўлады рэгламентавалі парадак будаўніцтва новых мячэцяў, пашырыўшы на Паўночна-Заходні край указ ад 26 жніўня 1756 г., які патрабаваў, каб мусульманскія парафіі, што наважыліся збудаваць мячэць, складалі не менш чым 200 душ мужчынскага полу.

На працягу XIX ст. мусульманская абшчына прыкладала ўсе намаганні для рамонту старых і будаўніцтва новых мячэцяў, дзе гэта магчыма. Найбольш новых мячэцяў будавалася ў мястэчках Менскай губерні, дзе татары пачалі сяліцца адносна нядаўна, толькі з другой палавіны XIX ст. У гістарычных архівах ёсць звесткі, якія дазваляюць вызначыць паслядоўнасць іх паяўлення. Па звестках А.Барановіча, у 1809 г. на сродкі джаміяту была пабудавана мячэць у Міры Навагрудскага павета, у 1815 г. — у Ляхавічах Слуцкага павета. Прыблізна ў сярэдзіне XIX ст. паяўляюцца мячэці ў двух мястэчках Ігуменскага павета — Уздзе і Смілавічах, а ў канцы XIX ст. ( 1883 — 1884 г. ) атрыманы царскі дазвол на будаўніцтва мячэці у Клецку і Капылі Слуцкага павета У 1884 г. тут пражывала мусульман 93 чалавекі мужчынскага полу і 91 чалавек жаночага полу, аднак "ввиду оказания поддержки магометанскому элементу в Западном крае" менскі губернатар і міністр унутраных спраў хадайнічалі перад імператарам аб адкрыцці тут мячэці.

Мусульманам горада Слонім прыйшлося два разы будаваць мячэць. Першы будынак пастаўлены ў 1803 — 1804 гг., другі — пасля пажару 1881 г. Няпроста вырашалася пытанне пра будаўніцтва мячэці ў Іўі ( ваколіца Мураўшчына ). Яна была пабудавана ў канцы XIX ст. ( бярвенні на сцены падаравала пані — хрысціянка, а дыхтоўны матэрыял не збуцвеў і да сённяшняга дня —заўвага рэдактара ), аднак з прычыны нязгоды пры выбарах імама, адкрыццё яе было адкладзена, а 300 мусульман ваколіцы былі прыпісаны да Даўбуцішкаўскай мячэці.

Да новых мячэцяў, якія паявіліся ў нетрадыцыйных месцах пасялення татар, можна аднесці мячэць у заштатным горадзе Відзы Ковенскай губерні ( цяпер Браслаўскі раён Віцебскай вобласці ), пабудаванай у 1860 — 1865 гг. Імперскімі ўладамі фактычна было забаронена адбудоўваць знішчаную пажарам у 1795 г. драўляную мячэць у Коўна. Прыход і мячэць тут паяўляюцца толькі ў пачатку XX ст., да гэтага мясцовыя мусульмане былі прыпісаны да Віленскага джаміяту.

З сярэдзіны XIX ст. мусульманскія джаміяты паступова прыходзяць да думкі дабівацца дазволу на будаўніцтва не драўляных, як гэта было прадугледжана законам польска-літоўскай дзяржавы, а мураваных мячэцяў. Справа ў тым, што сціплыя драўляныя пабудовы на працягу кароткага часу старыліся і патрабавалі пастаяннага абнаўлення. Таму ужо ў 1862 г. мусульмане Калварыйскага павета Сувалкаўскай губерні звярнуліся ў Праўленчую камісію Царства Польскага з просьбай даць з казны пазыку на будаўніцтва мураванай мячэці, але ім адмовілі. Быў створаны праект будаўніцтва мураванай мячэці у Вільні на месцы драўлянай у Лукішках, сабраны сродкі, але вайна і бальшавіцкі переварот прывялі да страты сродкаў, якія захоўваліся ў банку.

**У Расійскай імперыі** існавала рангавая дыферэнцыяцыя мячэцяў, якая пашыралася і на мячэці Паўночна-Заходняга краю. Яны падзяляліся на саборныя і пяцічасовыя. Паводле тлумачэння Дэпартамента духоўных спраў для нехрысціянскіх вызнанняў, "различие это имеет значение исключительно в духовном отношении". У саборных мячэцях адбываюцца усе службы, як паўсядзённыя, так і па пятніцах, а таксама і па гадавых святах; у пяцічасовых жа мячэцях, якія атрымалі сваю назву ад таго, што мусульмане штодзённа пяць разоў збіраюцца на малітву, пятнічныя ж і святочныя мален-

ні не могуць адбывацца ( забаронены — заувага рэд. ).

У архітэктурных адносінах саборныя і пяцічасовыя мячэці ў большасці выпадкаў паміж сабою адрозніваюцца толькі памерамі. Паводле звестак на 1879 г. у Віленскай губерні былі 3 саборныя і 3 пяцічасовыя мячэці, у іх малілася 2529 мусульман, у Менскай губерні было 8 саборных мячэцяў і 3145 мусульман, у Ковенскай губерні была 1 саборная мячэць ( у Відзах ) і 706 мусульман, у Гродзенскай губерні — 3 саборныя мячэці і 1682 мусульман. У ліку гэтых мячэцяў не былі ўпомнены мячэці ў Студзянцы і яшчэ адна мячэць у Калварыйскім павеце Сувалкаўскай губерні. Невялікі джамііят з 201 мусульманіна існаваў ў вёсцы Юкаўцы Астрожскага павета Валынскай губерні.

Такім чынам, на захаванне і змены сеткі мусульманскіх мячэцяў у Паўночна-Заходнім краю ў XIX ст. аказвала ўплыў некалькі фактараў. Па-першае, непрарыўнае існаванне мусульманскай канфесіі, якая апіралася на традыцыю літоўска-польскай дзяржавы і ў той ці іншай ступені была падтрымана дзяржаўнымі законамі, па-другое, існаванне старых і ўзнікненне новых пасяленняў, што сведчыць пра некаторае перамяшчэнне літоўскіх татар у геаграфічнай прасторы, па-трэцяе, поўная адасобленасць мясцовай мусульманскай канфесіі ад астатняга мусульманскага свету, неабходнасць падтрымліваць існаванне канфесіі ўласнымі сіламі і сродкамі.

---

* Паўночна-Заходні край — назва ў 19 — пачатку 20 ст. паўночна-заходняй часткі Расійскай імперыі — Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Ковенскай і Менскай губерній.

## ДОЎГІ І ЦЯЖКІ ШЛЯХ ДА ВОЛІ

Няма, напэўна, на свеце другой такой нацыі, пра якую было сказана і напісана столькі лухты, як пра татараў. У Расіі, ды і па ўсей Еўропе, узніклі гістарычныя школы, якія да гэтага часу папасваюцца каля гэтага карыта. Ілжывая гісторыя пра татарскі народ натхняла і натхняе раманістаў, "высокую" паэзію, "мастацтва" і проста павярхоўных журналістаў, якія шукаюць найбольш страшныя параўнанні. А сапраўды татарскага іга і не было, ніколі не было рэальнай пагрозы Маскве з боку Казані. Была

зменлівая і пераменлівая на шчасце гісторыя татарскага народа. Была славутая Булгарская дзяржава, магутная Залатая Арда з дзіўнымі і незнаёмымі для Еўропы тых часоў элементамі дэмакратыі. Была кароткая, але бурная гісторыя Казанскага ханства. Земляробы і жывёлаводы, вучоныя і рамеснікі, асветнікі і лекары, гандляры і воі — татары пакінулі значны след у сусветнай культуры. Таму гісторыкам Расіі і Еўропы, ды і Татарстана яшчэ прыйдзецца зрабіць мноства адкрыццяў у скарбніцы старажытнай татарскай культуры, старанна схаванай палітыкамі і акадэмікамі пад грудай маны.

Марксісцкая традыцыя разглядала ўсе нярускія народы як дзікія, якім Расія нібыта несла культуру і дабрабыт. Калі знішчэнне палітычных структур, разбурэнне ранейшых эканамічных апор і жабрацтва народу, гвалтоўную хрысціянізацыю, ліквідацыю прафесійнай літаратуры і мастацтва, перасяленне народу з вялікіх рэк, лепшых зямель, вялікіх дарог і проста абжытых мясцін лічыць пашырэннем культуры, тады, сапраўды, каланіяльная палітыка Расіі была прагрэсіўнай з'явай. Але бяда адных была бядой і для другіх. Гэта неразумнае пакарэнне соцень народаў і зямель на вялікай тэрыторыі выціснула ўсе жыватворныя сокі з самога рускага народа. А дзяржава, замешаная і ўзгадаваная на крыві, кінула ў рэшце-рэшт на волю лёсу і рускіх. Такая іронія лёсу, а разам з тым крах усіх імперый. Калі хочаш быць вольным народам — дай спачатку волю другім!

Чаго татары чакаюць ад Расіі, ад той Расіі, якая нараджала страх, была павінна ў прыніжэнні, вынішчэнні нацыі? Татарам не трэба нейкіх пераваг і прывілеяў. Дастаткова волі і раўнапраўя, бо ў народа яшчэ не памерла працавітасць, прадпрымальнасць, смеласць і кемлівасць. А гэтых здольнасцяў дастаткова, каб карыстаючыся дабротамі дэмакратыі стаць поруч з любой нацыяй свету. У татараў заўсёды была цяга да вывучэння іншых моў, да гандлёвай і выдавецкай дзейнасці, бо яны ўвесь час былі пасрэднікамі паміж цюркскімі і славянскімі народнасцямі, паміж Усходам і Захадам, паміж рознымі канфесіямі. А такі народ, бязумоўна, мае права на дастойнае жыццё і сёння, і ў будучыні.

Роздумам аб гістарычным лёсе свайго народу прысвяцілі творы многія татарскія пісьменнікі, вучоныя, грамадскія дзеячы. Не мог застацца абыякавым да гэтай праблемы ніхто, а тым больш

грамадскі дзеяч, публіцыст, класік татарскай літаратуры Гаяз Ісхакі, імя каторага было да нядаўняга часу пад суровай забаронай. У сваім нарысе "Ідэль-Урал" ( "Байрам" мае намер перадрукаваць гэты нарыс -- заўвага рэд. ), апублікаваным у 1933 годзе ў час блуканняў у эміграцыі, ён разважае аб пераломных момантах у развіцці татарскай нацыі: часах Волжскай Булгарыі, Залатой Арды і Казанскага ханства, аб цяжкой долі татараў пасля заваявання Казані Іванам Жахлівым, перадрэвалюцыйных і паслярэвалюцыйных гадах, аб перспектывах развіцця народа. Пасля напісання нарыса мінула амаль 60 гадоў, але праблемы, якія ўздымаў Гаяз Ісхакі, злабадзённыя і сёння.

Біяграфія Гаяза Ісхакі даволі тыповая для грамадскага дзеяча канца XIX і пачатку XX стагоддзя. Нарадзіўся ён 22 лютага 1876 года ў ауле Яўшырма Чыстапольскага павета ў сям"і муллы. Спачатку вучыўся ў медрэсе, дзе настаўнікам быў яго бацька, а пасля заканчэння пачатковага курса яго адправілі ў Чыстапаль. Незадаволены навучаннем у Чыстапольскім медрэсе, з дазволу бацькі Гаяз у 1898годзе адправіўся ў Казань і паступіў у даволі вядомае "Прыазернае" ( "Куль буе " ) медрэсе. Акрамя традыцыйных для таго часу ведаў па мусульманскай гісторыі, філасофіі, логіцы, вывучэння моваў арабскай і фарсі, турэцкай літаратуры, ён спецыяльна наведвае занядкі па рускай мове ў Казанскай татарскай настаўніцкай школе.

Да гэтага часу Гаяз Ісхакі напісаў некалькі арыгінальных расказаў, аповесці, драматычных твораў і раман, у якіх пісьменнік-пачатковец уздымаў маральныя праблемы ўдасканалення асобы, закранаў тэмы простага чалавека ва ўмовах акаляючага свету.

Ідэі рэфармацыі ў татарскі свет пранікаюць разам з філосафам Курсаві і асветнікам Марджані. Курсаві крытычна падыйшоў да рэлігійных дагматаў і ўпершыню абвясціў пра неабходнасць сучаснай інтэрпрэтацыі Ісламу. Гэта дазволіла ўвесці ў медрэсе свецкія прадметы і старую схаластычную татарскую школу ператварыць у новую сістэму адукацыі, па сутнасці еўрапейскага ўзроўню.

За больш чым чатыры стагоддзі прыгнёту, накіраванага на эксплуатацыю, асіміляцыю і нават фізічнае вынішчэнне, татары выстаялі, выжылі і поўныя рашымасці стаць састаўной часткай

сусветнай цывілізацыі. Якія сілы мацавалі народ, што імкнуўся захаваць сваё аблічча і свае вартасці? Рэлігія? Безумоўна. Іслам — магутны фактар у выжыванні народу. Але сярод татараў ёсць і хрышчоныя татары, якія не ў меншай, а можа быць, і ў большай ступені зберагглі старадаўнія традыцыі народу. Мова? Безумоўна, але ёсць беларускія, літоўскія і польскія татары, якія страцілі мову, але не забылі сваё імя і мусульманскую веру. Адукацыя? Безумоўна. Прага да ведаў сярод татараў, якая цягнецца яшчэ з булгарскіх часоў, стала магутным фактарам захавання нацыянальных вартасцяў. Цяжка напэўна сказаць, што менавіта захавала народ. Хутчэй за ўсё усе гэтыя фактары разам, а можа быць, самасвядомасць, нацыянальны дух, які перадаецца з мацярынскім малаком ... Але як бы там ні было, бясспрэчна адно — адукацыя ў гісторыі татараў адыграла выключную ролю. І сёння актуальна гучаць словы Гаяза Ісхакі: "Адукацыя — першы крок на шляху да волі!"

Як і большасць татарскіх пісьменнікаў таго часу, Гаяз Ісхакі пачаў з заклікаў да абуджэння, арганізацыі таварыстваў, дыскусій у гуртках, асветніцкай дзейнасці ў медрэсе. У 1903 г. ён завяршыў фантастычную публіцыстычную аповесць "Пагібель праз 200 гадоў" аб этнічнай смерці татарскага народа. Інтэлігенцыі любога народу ўласціва паказваць усім пакуты сваіх простых людзей і заклікаць іх да супраціўлення крыўдзіцелям. У перадрэвалюцыйныя гады выдавалася дзесяткі татарскіх газет па ўсей тэрыторыі Расіі, ствараліся розныя палітычныя арганізацыі.

Татары былі ініцыятарамі мусульманскіх з"ездаў, а Садры Максудзі ўзначальваў мусульманскую фракцыю ў другой дзяржаўнай і наступных дзяржаўных думах. Юсуф Акчура прадстаўляў інтарэсы цюркскіх народаў на Лазанскім кангрэсе ў 1916 годзе. Татары ўмелі карыстацца любымі паслабленнямі ў заканадаўстве і змагацца за волю, больш таго, змаглі нямала зрабіць для аб"яднання цюркскіх народаў.

У 1905 годзе Гаяз Ісхакі актыўна ўдзельнічае ў мітынгах, сялянскіх сходках, піша артыкулы, стварае тайную арганізацыю "Шэкертлек" ( "Студэнцтва" ), якая пазней была названа "Хуррыят" ( "Воля" ), выдае газету "Тан йолдызы" ( "Мілавіца" ) эсэраўскага накірунку. У 1906 годзе ён упершыню быў арыштаваны і зняволены ў Чыстапольскай вязніцы. Праз год паўторны арышт

і высылка на тры гады ў Архангельскую губерню, якую ён адбываў разам з Юзафам Пілсудскім, будучым кіраўніком Польшчы. Па волі лёсу яны зноў спаткаліся ў Варшаве, і Пілсудскі аказаў падтрымку татарскай эміграцыі. У 1908 годзе Ісхакі з Архангельскай губерні ўцёк у Санкт-Пецярбург, а затым у Турцыю. У гэты час яго імя гучыць у татарскай прэсе, яго творы перакладаюць на рускую мову, ім цікавяцца за мяжой. Ён — прызнаны лідэр у палітычных колах і бясспрэчны аўтарытэт новай татарскай літаратуры рэалістычнага накірунку. Юсуф Акчура называе яго "палымяным барацьбітом за нацыю, самым чыстым і самааддданым абаронцам яе ідэалаў".

У 1911 годзе Гаяз Ісхакі нелегальна прыязджае ў Санкт-Пецярбург, але ў 1912 годзе яго зноў арыштавалі і адправілі ў Архангельскую губерню, адкуль ён быў вызвалены ў 1913 годзе ў сувязі з амністыяй з нагоды 300-х угодкаў дынастыі Раманавых. Ісхакі зноў працуе ў газетах Санкт-Пецярбурга, Масквы, Казані. Ён выдае газету "Іль" ( "Краіна" ), якую забаранілі ў 1915 годзе. Затым адкрывае новую газету "Сюз" ( "Слова" ), якую таксама забараняюць.

Лютаўская рэвалюцыя рэзка мяняе абставіны ў нацыянальным руху і на першае месца паўстае пытанне дзяржаўнага самавызначэння. Мяняюцца і палітычныя погляды Гаяза Ісхакі. Для яго галоўнай мэтай становіцца адзінства нацыі.

Усерасійскі мусульманскі з"езд, склікаsuccessfully I мая 1917 года ў Маскве, пастанавіў, што Расія павінна стаць федэратыўна-дэмакратычнай рэспублікай. У ліпені таго ж года ў Казані адбыліся з"езды шэрагу нацыянальных рухаў. На другім з"ездзе мусульман выбраны "Міллі Шура" ( "Нацыянальны Савет" ) пад кіраўніцтвам Садры Максудзі. Поўным ходам ішла падрыхтоўка да абвяшчэння уласнай дзяржавы. "Міллі Меджліс" ( "Нацыянальны Кангрэс" ), які працаваў у канцы 1917 — пачатку 1918 года ва Уфе, абвяшчае штат Ідэль-Урал, да стварэння якога прыхільна аднесліся башкіры, чувашы, марыйцы і іншыя народы краю на тэрыторыі былых Казанскай, Уфімскай і Арэнбургскай губерняў.

Была створана Міллі ідарэ ( Нацыянальная адміністрацыя ) Урала-Паволжа ў складзе шасці дэпартаментаў. Гаяз Ісхакі ўзначаліў дэпартамент замежных спраў. Аднак арышт кіраўнікоў "Харбі Шура" ( "Ваеннага Савета" ) перапыніў працэс рэалізацыі штата. Затым бальшавікі разагналі нацыянальныя рухі, раззброілі мусульманскія палкі, арыштавалі лідэраў, канфіскавалі друкарні і забаранілі выпуск газет. Гаяз Ісхакі перайшоў на нелегальнае становішча. Пасля прыходу белачэхаў Нацыянальная адміністрацыя ўзнавіла сваю дзейнасць, але ў Калчака адносіны да нацыянальных рухаў былі адмоўныя — ён арганізаваў судовыя працэсы над іх актывістамі. Гаяз Ісхакі зноў перайшоў на нелегальнае становішча.

У гэты час Мулла-Нур Вахітаў і Мірсаід Султан-Галіеў, якія уступілі ў саюз з Расійскім урадам, спрабавалі стварыць Татара-Башкірскую рэспубліку, па свае тэрыторыі амаль такую ж, як і штат Ідэль-Урал. Закі Валідаў утварыў "Малую Башкірыю" і заключыў пагадненне з Расіяй. Адзінства ў нацыянальным руху не было і яго неўзабаве звялі да другараднай палітычнай сілы. Утварэнне Татарскай рэспублікі ў 1920 годзе азначала поўны кантроль бальшавікоў у Волга-Уральскім рэгіёне і падпарадкаванне нацыянальнага пытання класаваму.

Гаяз Ісхакі ў 1919 годзе як дэлегат Версальскай канферэнцыі выязджае цераз Далёкі Усход у Еўропу і больш не вяртаецца ... Затым былі Парыж, Берлін, Варшава... Усюды ён выступае, агітуе. Выдае татарскія газеты ў Мукдэне і Берліне, стварае палітычныя арганізацыі ў Маньчжурыі, Германіі і Турцыі, аб"ядноўвае ў Варшаве эмігрантаў розных нацыянальнасцей у арганізацыю антысталінскай накіраванасці "Праметэй", дэвізам якой быў славуты раней лозунг "За вашу і нашу волю!"

Перад пачаткам другой сусветнай вайны польскі урад папярэдзіў эмігрантаў аб пагрозе з боку НКУС СССР, і ім удалося ў апошні момант пакінуць Польшчу з дапамогай турэцкіх дыпламатаў.

Галі Акыш — паплечнік Гаяза Ісхакі і яго палітычны пераемнік — сцвярджае, што татарская эміграцыя з СССР самая нешматлікая. Татары па свае волі не пакідалі Радзіму.

Дык што ж трымае людзей на сваей зямлі? Можа быць, гэта прастор Ідэль-Волгі і хрыбты Уральскіх гор? А можа, магілы продкаў не адпускаюць на чужыну? Што цягне татараў, якія выехалі ў Турцыю больш чым стагоддзе таму, зноў вяртацца ў нашы край, дзе і радні не засталося? Што кліча ў Казань беларускіх, літоўскіх і польскіх татараў, якія ўжо 600 гадоў жывуць далёка на захадзе ад сваей радзімы? Чаму татары Фінляндыі, ЗША, Аўстраліі сваім сімвалам лічаць вежу Сюмбіке, якую ведаюць толькі па фатаграфіі? Гістарычная Радзіма. Відаць, у гэтым слове схавана нешта большае, чым проста туга ці матэрыяльны дабрабыт.

У Турцыі, акрамя Гаяза Ісхакі, апынуўся Юсуф Акчура, Садры Максудзі і пазней цераз Каўказ перабраўся туды і Закі Валідзі. Каб замкнуць кола славутых татарскіх палітычных дзеячаў XX ст., не стае Мулла-Нура Вахітава, якога расстралялі белачэхі ў 1918 годзе, і Мірсаіда Султан-Галіева, закатаванага ў вязніцы НКУС. Іх шляхі крыжаваліся ў Санкт-Пецярбурзе, Маскве, Казані, яны працавалі часам разам, часам іх бачылі на раздарожжы, але яны пісалі артыкулы ў газеты Гаяза Ісхакі і гарэлі аднолькавым полымем: вывесці свой народ на шырокі шлях сусветнай цывілізацыі. Гэтыя людзі паўплывалі не толькі на татарскую грамадскую свядомасць, яны — прызнаныя лідэры ўсяго цюркскага свету і шэрагу ўсходніх краін. Калі б у 1918 годзе яны трымаліся разам, то, магчыма, гісторыя татарскага народа склалася інакш.

Гаяз Ісхакі ў Турцыі не сябраваў з Закі Валідзі, ён не мог яму прабачыць "Малой Башкірыі", якая раскалола адзіны нацыянальны фронт. Але напрыканцы жыцця Закі сам прыйшоў у дом Гаяза, яны абняліся, расплакаліся і памірыліся ...

Заснавальнік татарскай рэалістычнай літаратуры, аматар слова, вялікі мастак, выдатны палітык, верны сын татарскага народа, які прысвяціў сваё жыццё барацьбе за яго вызваленне, Гаяз Ісхакі памёр 22 ліпеня 1954 года. Магіла яго ў Анкары.

## СТАН МУСУЛЬМАНСКАЙ ВЕРЫ ВА УЗБЕКІСТАНЕ

Займаючыся у аспірантуры у Беларускім дзяржауным універсітэце, я даведауся пра дзейнасць згуртавання татарау-мусульман "Аль-Кітаб". Некалькі разоу наведау заняткі, якія праводзяць татары вечарамі у пятніцу. Па просьбе аднаго татарскага актывіста я раскажу крышачку пра сваю навуковаю працу.

Мая радзіма — Узбекістан. Па памеры і колькасці насельніцтва Узбекістан у два разы больш за Беларусь. Сельскагаспадарчыя землі займаюць каля 60 % тэрыторыі, але прыдатныя для землябробства землі складаюць толькі 8 % тэрыторыі, астатнія 52 % пад пустыннымі і паупустыннымі пашамі. Надзейныя ураджаі можна збіраць толькі на паліуных землях.

Мусульманскую веру мясцовае насельніцтва прыняло у 8-ым стагоддзі, калі Сярэдняя Азія была заваёвана арабамі. У 16-м ст. закончылася фарміраванне узбекскай народнасці. У былым СССР гэта была краіна з найбольш высокім працэнтам і найбольшым па колькасці мусульманскім рэгіёнам. Больш за 90 % насельніцтва мусульмане ці іх нашчадкі. Пераважаюць узбекі, але жывуць таксама казахі, таджыкі, каракалпакі, татары ( крымскія і паволжскія ), туркі-месхецінцы ( нядауна, на вялікі жаль, адбыліся крывавыя сутычкі з карэнным насельніцтвам ). Немусульманскае насельніцтва складаецца з карэйцау, рускіх і украінцау.

Бавоунік — адна з галоуных сельскагаспадарчых культур ва Узбекістане. Бавоуна, тканіны, свежая і сушаная садавіна і гароднiна, ранняя ( фактычна у пачатку сакавіка ) капуста з Узбекістана забязілася у самыя аддаленыя раёны былога СССР. Даволі цесныя сувязі былі паміж Беларуссю і Узбекістанам. У час жудаснага разбуральнага землетрасення у 1966 г. у Ташкенце было разбурана 38 тыс. будынкау, у т.л. 35 тыс. жылых дамоу. Беларусь разам з іншымі рэспублікамі прыйшла нам на дапамогу. Для Ташкента беларускія архітэктары спланавалі, а інжынеры і рабочыя-будаунікі пабудавалі на сродкі грамадзян Беларусі 11 жылых дамоу, школу, дзіцячы сад ( архітэктары В.Ладыгіна і Я.Лiневіч, інжынеры А.Зысман і Б.Кабушкін ). Вялікі дзякуй Беларусі за гэту дапамогу Узбекістану і Ташкенту выказваюць усе тыя, хто перажыу вялікае стыхійнае бедства.

На працягу шматгадовага існавання савецкай улады камуністычная ідэалогія праз школу, друк, радыё, кіно, а ў апошнія дзесяцігоддзі і па тэлебачанні насаджала ваяўнічы атэізм. Сельскае насельніцтва, якое пераважала ва Узбекістане, вызнавала Іслам і святочным днём лічыла пятніцу, хадзіла на абавязковую для мусульманіна малітву ў мячэці. У выніку калектывізацыі пятніцу зрабілі рабочым днём ( за невыхад на працу ў гэты дзень каралі ), а выхадным днём стала нядзеля. Гэта быў вялікі здзек над вернікамі.

Камуністычная прапаганда, асабліва ў час праўлення М.С.Хрушчова, лічыла, што як найхутчэй трэба пазбавіцца ад рэлігіі, ад мячэцяў і тых, хто ўмее маліцца і можа весці за сабою іншых. Сярод святароў усіх канфесій вялася работа для ператварэння іх у даносчыкаў органаў дзяржаўнай бяспекі. Непакорных святароў кідалі ў вязніцы і канцэнтрацыйныя лагеры.

Сацыялагічнае апытванне мы праводзілі ў горадзе Ангрэн, маладым горадзе, які ўзнік у 1946 годзе ў выніку будаўніцтва энергетычнага комплексу — здабыча вугалю, станцыя падземнай газіфікацыі вугалю, буйная цеплавая электрастанцыя і інш.

Будаваць горад, прамысловыя прадпрыемствы, працаваць на іх прыехалі маладыя людзі з усіх раёнаў рэспублікі. Сацыялагічнае даследванне ў такім горадзе дае вельмі прадстаўнічы матэрыял, як быццам з усёй рэспублікі.

У Ангрэне няма ні адной мячэці і гэта на 122 тыс. жыхароў ( 1985 г. ), сярод якіх пераважаюць узбекі.

Вывучаліся дадзеныя анкеты, якія запоўнілі 1020 чалавек мусульман рознага ўзросту і заняткаў, людзей мужчынскага і жаночага полу. Пры падліках лічбы падаюцца з акругленнем да 1 %.

Маладыя людзі — да 30 гадоў складалі 51 %, сярэдняга ўзросту — 31 — 55 гадоў — 27 %, старэйшыя за 55 гадоў — амаль 22 %. З іх мужчын — 48 %, жанчын — 52 %. Па сацыяльнаму становішчу: рабочыя 86 %, навучэнцы — 6 %, пенсіянеры і хатнія гаспадыні — каля 8 %. Аналіз вынікаў апытвання сведчыць пра тое, які светапогляд у адносінах да рэлігіі ў адным з рэгіёнаў традыцыйнага пашырэння Ісламу.

Амаль 78 % апытаных лічаць Іслам важнай стараной свайго

духоўнага жыцця, а 13 % не выконваюць амаль ніякіх абавязкаў мусульманіна. Як найвялікшую духоўную вартасць 64 % апытаных назвалі сям"ю, яе сямейна-бытавыя традыцыі і звычаі. Натуральна, што за многія дзесяцігоддзі камуністычнай прапаганды у рэлігійнай свядомасці мусульманіна нямала размытага, у тым ліку сямейна-бытавыя традыцыі, асвечаныя Кур"анам і шарыятам. Добра ведаюць нашы узбекскія традыцыі толькі 40 % узбекаў.

Вядома, што сістэмаутваральным пачаткам любой рэлігіі з"яўляюцца святыя кнігі. У анкеце нашага апытвання было пытанне: "Ці знаёмы вы з Кур"анам ?

Драматычная гісторыя пашырэння Кур"ана ва Узбекістане пры савецкай уладзе. Прававерныя мусульмане прызнаюць Кур"ан толькі на арабскай мове. Выдаваўся Кур"ан толькі да 1922 года, пазней кнігі друкавалі на аснове лацінскай графікі, а неўзабаве пераклалі на кірыліцу. У 30-х і да пачатку 50-х гадоў нават трымаць дома кнігі на арабскай мове было небяспечна. Гэта знайшло адлюстраванне і у адказах апытаных. Чыталі Кур"ан на арабскай мове 6 %, а на узбекскай мове амаль 23 %, ды яшчэ на рускай мове каля 7 %. Астатнія чулі пра Кур"ан ад іншых людзей, а 18 % апытаных зусім нічога не ведаюць. Таму вельмі слабое веданне падстаў Ісламу і толькі 3,4 % мусульман выконваюць чатыры асноўныя запаведзі Ісламу, а пятую запаведзь - хадж - падарожжа у святыя мясціны ( Мекку і Медыну ) нікому не пашчасціла здзейсніць.

У мусульманскай рэлігіі вялікае значэнне надаецца абрадам. Пераважная большасць ( 99 % апытаных ) адзначае неабходным вясельны звычай і азан дзіцяці ( 99 % апытаных ). Найбольш папулярнымі святамі лічыцца Наўруз — Новы год ( гэта яшчэ дамусульманскае свята ) і Курбан-Байрам ( адпаведна 68 і 37 % апытаных ).

Можна спадзявацца, што колькасць вернікаў будзе павялічвацца. У вернікаў-узбекаў вялікае значэнне мае павага да святых — валі ( ад арабскага слова валійа — той, хто стаіць побач, паблізу. Маецца на увазе прарок Мухаммед і іншыя, якія стаяць блізка ад Аллага ). Наведанне асобных магіл, ці магіл на мізары, дзе пахаваны славутыя сваім праведным жыццём мусульмане, лічыць патрэбным 72 % апытаных.

Яшчэ у даісламскі перияд у Сярэдняй Азіі быу пашыраны культ вады і сонца. Вада і сонца найбольш уплывалі на жыццё чалавека у пустыні, таму з вялікай, амаль з рэлігійнай пашанай ставіцца значная колькасць апытаных ( адпаведна 16 і 12 % ). Даволі многа тых, хто верыць у ангелау ( 36 % ). Гэта рэшткі анімалістычных уяуленняу узбекау даісламскага перыяду, хоць і у Кур"ане упамінаюцца ангелы ( напрыклад, архангел Джыбрыл перадау Кур"ан прароку Мухаммеду ).

На падставе апрацаваных анкет высветлілася, што больш за палавіну апытаных дадатна ставіцца да мусульманскай рэлігіі. Адкрыта негатыўную пазіцыю да веры праявілі каля 17 % апытаных, а 20 % яшчэ не маглі заняць цвердую пазіцыю. Для 10 % апытаных рэлігія не іграе ніякай ролі.

На пытанне, што дае для чалавека мусульманская вера, палова апытаных адказала, што гэта пераемнасць пакаленняу, "сувязь часоу", для іншых рэлігія дае адчуванне радасці жыцця, яе паунаты. Для многіх узбекау вера неабходна таму, што яна вучыць берагчы прыроду, быць гаспадаром створаных Аллагам даброт.

Узбекі глыбока паважаюць старых. Мусульманскія абрады і святы адзначаюць найбольш у людзей старэйшага узросту ( 72 % апытаных у гэтай групе ). У 15 % сямей святы адзначаюць усе, у 13 % сямей не святкуюць .

Інфармацыйны аб"ём атрыманых адказау на анкету на гэтым не вычарпаны і чакае больш падрабязнага і глыбокага аналізу.

| | | Пашыраныя мусульманскія імёны | |
|---|---|---|---|
| арабская графіка | беларуская графіка | паходжанне слова | значэнне слова |
| آدم | Адам | арабскае | чалавек |
| عزيز | Азіз | арабскае | вялікі, дарагі |
| آئينه | Айна | персідскае | чыстая, светлая |
| عائشه | Айша | арабскае | жывучая |
| اکبر | Акбар | арабскае | вялікі, старэйшы |

## МУСУЛЬМАНСКІ КАЛЯНДАР

У мусульман прынята лічыць, што з заходам сонца канчаюцца адны суткі і пачынаюцца наступныя, настае новая дата. Напрыклад, пятніца пачынаецца, калі настае змрок, а у еўрапейскім календары ноч да 24 гадзін належыць да адной даты, а пасля 24 ( 00 ) гадзін — да другой.

Мусульманскі год, які заснаваны на змене фаз месяца, доўжыцца 354 дні, а высакосны — 355 дзён. У параўнанні з еўрапейскім мусульманскі год карацей на 10, 11 і 12 сутак ( калі еўрапейскі год высакосны, а мусульманскі год просты ).

У сувязі з тым, які год лічыць высакосным у мусульман няма аднастайнага падыходу. Існуе так званы "турэцкі цыкл" і "арабскі цыкл". Паводле "турэцкага цыкла" высакоснымі лічаць 1413, 1415, 1418 і 1421 гады, а па "арабскім цыкле" — 1412, 1415, 1417 і 1420 год высакосны. Таму мусульманскія святы настаюць не у аднолькавую дату.

Беларускія татары карыстаюцца календаром, які вылічаецца па мулінскіх хамаілах, складзеных вельмі даўно, калі турэцкія султаны былі адначасова і халіфамі і ўзначальвалі духоўную ўладу сярод мусульман ( з канца 18 ст. да 1924 г. ).

Беларускія татары, якія да другой сусветнай вайны жылі у Польшчы, па прапанове муфтэя Якуба Шынкевіча перайшлі на "арабскі" каляндар. У Вільні выдаваўся мусульманскі каляндар, які даваў у супастаўленні мусульманскі ( арабскі ) і еўрапейскі календары. Вайна перарвала гэту неабходную інфармацыю і татары ў Заходняй Беларусі зноў перайшлі на каляндар, складзены па хамаілах, гэта значыць на "турэцкі" каляндар. Бяды ніякай у гэтым няма. Трэба толькі выконваць Уразу ( пост ) у святы месяц рамазан, а тое, што святочныя дні будуць крыху адрознівацца ад арабскіх, то граха тут няма.

Па просьбе нашых чытачоў "Байрам" друкуе "турэцкі" і арабскі" календары. Першы склаў Ісмаіл Александровіч ( ён паказаў свае разлікі дасведчанаму мусульманіну — Якубу Ждановічу з Клецка, які ухваліў каляндар, зрабіў слушную прапанову ), другі каляндар ( арабскі ) склаў дасведчаны мусульманін, араб Халіль Бас"юні.

Кожнаму году мусульманскага "турэцкага" календара надана (прысвоена ) свая літара арабскага алфавіта: ا ه ج ز د ..... ب و ر , пачынаючы ад хурфы ( літары ) ا ( аліфа ) і канчаючы ر ( ра ) — усяго з 8 літар, а затым, з Новым годам зноў надаецца хурфа ا ( аліф ) і г.д. Якраз бягучы, I4I3 год, які пачаўся 2.7.I992 г. ў чацвер, замацаваны за літарай ا аліф. У сувязі з гэтым за I-ым днём кожнага месяца замацаваны пэўны дзень тыдня. Але гэтыя дні тыдня змяньваюцца ў залежнасці ад таго, на якой хурфе "стаіць" год. Так, першы месяц I4I3 г. — мухаррэм — пачынаецца ў чацвер, а ў наступны I4I4 г. ( I993 г. ) якому будзе надана хурфа ه ( х̄а ), мухаррэм будзе пачынацца ў панядзелак.

У бягучым I4I3 г. хіджра:
месяц джамазіль-ахыр пачаўся 27.II.I992 г. у пятніцу, раджэб — 26.I2.I992 г. ў суботу, шаубан — 25.I.I993 г. ў панядзелак, рамазан — 23.2.I993 г. ў аўторак, шавваль — 25 сакавіка I993 г. ў чацвер, зіль-каадда — 23.4.I993 г. у пятніцу.

Новы, I4I4 г. хіджра будзе мець літару ه і будзе пачынацца месяц мухаррэм — 2I чэрвеня I993 г. ў панядзелак, сафар — 2I ліпеня I993 г. ў сераду, рабі-ўль-авваль — I9.8.I993 г. ў чацвер, рабі -ўль-ахыр — I8.9.I993 г. ў суботу, джамазіль-авваль — I7.I0.I993 г. ў нядзелю, джамазіль-ахыр — I6.II.I993 г. ў аўторак, раджэб — I5.I2.I993 г. ў сераду.

## Святочныя і памятныя дні і ночы, якія адзначаюцца па "турэцкім" календары ў I4I3 — I4I4 гг. хіджра ( I993 г. )

### Святыя ночы:

Ноч Раг'айб — ноч вялікіх жаданняў — з чацвярга на першую пятніцу месяца раджэба ( з 6 на 7 раджэба — з 3I.I2.I992 г. на I.I.I993 г. )

Мірадж — начное падарожжа прарока Мухаммеда — 27 ноч раджаба ( з 20 на 2I.I.I993 г. )

Берат — ноч вызвалення ад грахоў — 15-ая ноч месяца шаўбана ( з 8 на 9.2.1993 г. )

Кадыр-ноч — ноч Усемагутнасці, 27-ая ноч месяца рамазан. У гэту ноч быў пасланы прароку Мухаммеду Кур"ан ( з 20 на 21.3.1993)

Пост ( Ураза ) — месяц рамазан — з 23.2.1993 г. да 24.3.1993 г. уключна.

Святы:

Рамазан-Байрам — радаснае свята завяршэння посту, святкуецца першыя 3 дні месяца шаввал ( 25 — 27.3.1993 г. ).

Курбан-Байрам — завяршэнне паломніцтва ( хаджу ) у Мекку, прыпадае на 10-ы дзень зіль-хаддэка і святкуецца 4 дні ( 1 — 4.6.1993 г. )

Новы год — пачынаецца з месяца мухаррэма— пачатка мусульманскага летазлічэння у сувязі з перасяленнем ( хіджра ) прарока Мухаммеда з Меккі у Медыну ( 21.6.1993 г. )

Дзень Ашура звязаны з шэрагам падзей, на 10-ы дзень месяца і з"яўляецца днём посту (.30.6.1993 г. ). Гэта жалобнае свята называецца Ашурэйны Байрам.

Мяўлюд — Дзень нараджэння прарока Мухаммеда, 12-ы дзень рабіуль-аввала ( 30.8.1993 г. )

"Арабскі" каляндар
на 1413 — 1414 гг. хіджра ( 1993 г. )

Для вызначэння, які год лічыць высакосным, трэба лік года падзяліць на лік 30 ( 30-гадовы "арабскі цыкл" ). Калі астатак пасля дзялення будзе роўны 2, 5, 7, 10, 13, 16, 18, 21, 24, 26 і 29, то адпаведны год будзе высакосным ( 355 сутак ). Да якога месяца дадаецца 1 дзень — вырашаецца асобна, найчасцей да 12-га месяца, іншы раз выбіраецца які-небудзь іншы месяц.

Святочных дзён менш і святы карацейшыя, чым па "турэцкім" календары.

Існуюць правілы разлікаў дат хіджры і еўрапейскага календара і, наадварот, пераводу дат еўрапейскага календара на дату хіджры ( нярэдка на вольных старонках у Кур"ане запісвалі дату нараджэння дзяцей па мусульманскім календары).

## ТУРЭЦКА-МУСУЛЬМАНСКІ І ЕЎРАПЕЙСКІ КАЛЯНДАР
## на 1413-1414 год хіджра ( даты над рыскай ) і 1993 год

7 раджаба — 7 шаубана
1413 г. хіджра
студзень ( январь )

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 10/4 | 17/11 | 24/18 | 1/25 |
| Ат | | 11/5 | 18/12 | 25/19 | 2/26 |
| Ср | | 12/6 | 19/13 | 26/20 | 3/27 |
| Чц | | 13/7 | 20/14 | 27/21 | 4/28 |
| Пт | 7/1 | 14/8 | 21/15 | 28/22 | 5/29 |
| Сб | 8/2 | 15/9 | 22/16 | 29/23 | 6/30 |
| Нд | 9/3 | 16/10 | 23/17 | 30/24 | 7/31 |

8 шаубана — 6 рамазана
1413 г. хіджра
люты ( февраль )

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Пн | 8/1 | 15/8 | 22/15 | 29/22 |
| Ат | 9/2 | 16/9 | 23/16 | 1/23 |
| Ср | 10/3 | 17/10 | 24/17 | 2/24 |
| Чц | 11/4 | 18/11 | 25/18 | 3/25 |
| Пт | 12/5 | 19/12 | 26/19 | 4/26 |
| Сб | 13/6 | 20/13 | 27/20 | 5/27 |
| Нд | 14/7 | 21/14 | 28/21 | 6/28 |

7 рамазана — 7 шавваля
1413 г. хіджра
сакавік ( март )

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | 7/1 | 14/8 | 21/15 | 28/22 | 5/29 |
| Ат | 8/2 | 15/9 | 22/16 | 29/23 | 6/30 |
| Ср | 9/3 | 16/10 | 23/17 | 30/24 | 7/31 |
| Чц | 10/4 | 17/11 | 24/18 | 1/25 | |
| Пт | 11/5 | 18/12 | 25/19 | 2/26 | |
| Сб | 12/6 | 19/13 | 26/20 | 3/27 | |
| Нд | 13/7 | 20/14 | 27/21 | 4/28 | |

8 шавваля — 8 зіль-каада
1413 г. хіджра
красавік ( апрель )

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 12/5 | 19/12 | 26/19 | 4/26 |
| Ат | | 13/6 | 20/13 | 27/20 | 5/27 |
| Ср | | 14/7 | 21/14 | 28/21 | 6/28 |
| Чц | 8/1 | 15/8 | 22/15 | 29/22 | 7/29 |
| Пт | 9/2 | 16/9 | 23/16 | 1/23 | 8/30 |
| Сб | 10/3 | 17/10 | 24/17 | 2/24 | |
| Нд | 11/4 | 18/11 | 25/18 | 3/25 | |

1 рамазана пачынаецца пост, 1 — 3 шаввала — Рамазан-Байрам

9 зіль-каадда — 9 зіль-хадджа, I4I3 г. хіджра

май

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | II/3 | I8/I0 | 25/I7 | 2/24 | 9/3I |
| Ат | | I2/4 | I9/II | 26/I8 | 3/25 | |
| Ср | | I3/5 | 20/I2 | 27/I9 | 4/26 | |
| Чц | | I4/6 | 2I/I3 | 28/20 | 5/27 | |
| Пт | | I5/7 | 22/I4 | 29/2I | 6/28 | |
| Сб | 9/I | I6/8 | 23/I5 | 30/22 | 7/29 | |
| Нд | I0/2 | I7/9 | 24/I6 | I/23 | 8/30 | |

I0 зіль-хадджа I4I3 г. — I0 мухаррэма I4I4 г. хіджра

чэрвень ( июнь )

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | I6/7 | 23/I4 | I/2I | 8/28 |
| Ат | I0/I | I7/8 | 24/I5 | 2/22 | 9/29 |
| Ср | II/2 | I8/9 | 25/I6 | 3/23 | I0/30 |
| Чц | I2/3 | I9/I0 | 26/I7 | 4/24 | |
| Пт | I3/4 | 20/II | 27/I8 | 5/25 | |
| Сб | I4/5 | 2I/I2 | 28/I9 | 6/26 | |
| Нд | I5/6 | 22/I3 | 29/20 | 7/27 | |

II мухаррэма — II сафара, I4I4 г. хіджра

ліпень ( июль )

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | I5/5 | 22/I2 | 29/I9 | 6/26 |
| Ат | | I6/6 | 23/I3 | 30/20 | 7/27 |
| Ср | | I7/7 | 24/I4 | I/2I | 8/28 |
| Чц | II/I | I8/8 | 25/I5 | 2/22 | 9/29 |
| Пт | I2/2 | I9/9 | 26/I6 | 3/23 | I0/30 |
| Сб | I3/3 | 20/I0 | 27/I7 | 4/24 | II/3I |
| Нд | I4/4 | 2I/II | 28/I8 | 5/25 | |

I2 сафара — I3 рабі-уль-аввалія, I4I4 г. хіджра

жнівень ( август )

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | I3/2 | 20/9 | 27/I6 | 5/23 | I2/30 |
| Ат | | I4/3 | 2I/I0 | 28/I7 | 6/24 | I3/3I |
| Ср | | I5/4 | 22/II | 29/I8 | 7/25 | |
| Чц | | I6/5 | 23/I2 | I/I9 | 8/26 | |
| Пт | | I7/6 | 24/I3 | 2/20 | 9/27 | |
| Сб | | I8/7 | 25/I4 | 3/2I | I0/28 | |
| Нд | I2/I | I9/8 | 26/I5 | 4/22 | II/29 | |

I0, II, I2 і I3 зіль-хадджа — Курбан-Байрам. I мухаррэма — Новы I4I4 год хіджра. I0 мухаррэма — Дзень Ашура.

I4 рабі-уль-авваль —
I3 рабі-ўль-ахыр, I4I4 г.
хіджра

верасень ( сентябрь )

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 19/6 | 26/I3 | 3/20 | I0/27 |
| Ат | | 20/7 | 27/I4 | 4/2I | II/28 |
| Ср | I4/I | 2I/8 | 28/I5 | 5/22 | I2/29 |
| Чц | I5/2 | 22/9 | 29/I6 | 6/23 | I3/30 |
| Пт | I6/3 | 23/I0 | 30/I7 | 7/24 | |
| Сб | I7/4 | 24/II | I/I8 | 8/25 | |
| Нд | I8/5 | 25/I2 | 2/I9 | 9/26 | |

I4 рабі-ўль-ахыр —
I5 джамазіль-авваль, I4I4г.
хіджра

кастрычнік ( октябрь )

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | I7/4 | 22/II | 29/I8 | 6/25 |
| Ат | | I8/5 | 25/I2 | 3/I9 | I0/26 |
| Ср | | I9/6 | 26/I3 | 4/20 | II/27 |
| Чц | | 20/7 | 27/I4 | 5/2I | I2/28 |
| Пт | I4/I | 2I/8 | 28/I5 | 6/22 | I3/29 |
| Сб | I5/2 | 22/9 | 29/I6 | 7/23 | I4/30 |
| Нд | I6/3 | 23/I0 | I/I7 | 8/24 | I5/3I |

I6 джамазіль-авваль —
I5 джамазіль-ахыр,
I4I4 г. хіджра

лістапад ( ноябрь )

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | I6/I | 23/8 | 30/I5 | 7/22 | I4/29 |
| Ат | I7/2 | 24/9 | I/I6 | 8/23 | I5/30 |
| Ср | I8/3 | 25/I0 | 2/I7 | 9/24 | |
| Чц | I9/4 | 26/II | 3/I8 | I0/25 | |
| Пт | 20/5 | 27/I2 | 4/I9 | II/26 | |
| Сб | 2I/6 | 28/I3 | 5/20 | I2/27 | |
| Нд | 22/7 | 29/I4 | 6/2I | I3/28 | |

I6 джамазіль-ахыр —
I7 раджэб, I4I4 г.
хіджра

снежань ( декабрь )

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Пн | | 2I/6 | 28/I3 | 6/20 | I3/27 |
| Ат | | 22/7 | 29/I4 | 7/2I | I4/28 |
| Ср | I6/I | 23/8 | I/I5 | 8/22 | I5/29 |
| Чц | I7/2 | 24/9 | 2/I6 | 9/23 | I6/30 |
| Пт | I8/3 | 25/I0 | 3/I7 | I0/24 | I7/3I |
| Сб | I9/4 | 26/II | 4/I8 | II/25 | |
| Нд | 20/5 | 27/I2 | 5/I9 | I2/26 | |

| раджаб (раджэб), 1413 / шаабан (шаўбан), 1413 | | | студзень (январь) |
|---|---|---|---|
| раджаб (раджэб), 1413 | 8 | Пт | 1 |
| | 9 | Сб | 2 |
| | 10 | Нд | 3 |
| | 11 | Пн | 4 |
| | 12 | Ат | 5 |
| | 13 | Ср | 6 |
| | 14 | Чц | 7 |
| | 15 | Пт | 8 |
| | 16 | Сб | 9 |
| | 17 | Нд | 10 |
| | 18 | Пн | 11 |
| | 19 | Ат | 12 |
| | 20 | Ср | 13 |
| | 21 | Чц | 14 |
| | 22 | Пт | 15 |
| | 23 | Сб | 16 |
| | 24 | Нд | 17 |
| | 25 | Пн | 18 |
| | 26 | Ат | 19 |
| | 27 | Ср | 20 |
| | 28 | Чц | 21 |
| | 29 | Пт | 22 |
| шаабан (шаўбан), 1413 | 1 | Сб | 23 |
| | 2 | Нд | 24 |
| | 3 | Пн | 25 |
| | 4 | Ат | 26 |
| | 5 | Ср | 27 |
| | 6 | Чц | 28 |
| | 7 | Пт | 29 |
| | 8 | Сб | 30 |
| | 9 | Нд | 31 |

## З"ЯЎЛЕННЕ НА СВЕТ

Трэба ведаць усім мусульманам, што чалавек паяўляецца на свет не дзеля таго, каб на зямлі цярпець прыгнёт і знявагу, а развіваючы душу ў гармоніі з целам. дасягнуць вечнага жыцця, прайсці праз Судны Дзень і ўваскрэснуць і стаць вартым Раю. Тыя ж прадстаўнікі чалавечага роду, якія абцяжараны грахамі, не здолеюць перайсці Сырат-мост на безданню і трапяць у геену вогненную. Яны варты жалю, бо самі выбралі сабе гэты шлях.

Аберагаць іх ад граха і зла на.працягу ўсяго жыцця — абавязак кожнага. Для гэтага трэба толькі не ўхіляцца ад выканання Сунны — гэта значыць ад звычаяў, згодных з шарыятам.

Н а с т а ў л е н н е. Дзіця — плён паважлівых адносін. Інтымная блізкасць толькі тады з"яўляецца высакароднай справай, калі адносіны мужчыны і жанчыны замацаваны нікяхам ( шлюбам ). У супрацьўным выпадку гэта грэх і блуд. Аднак грахом таксама з"яўляецца і тое, што муж дамагаецца жонкі прымусам. Бо калі муж бярэ сваю жонку пагрозамі і гвалтам, то ад яго семя ў чэраве маці можа зарадзіцца непаўнацэннае дзіця, з разумовымі і фізічнымі недахопамі. Таму мужчына, які лічыць сябе мусульманінам, ніколі не можа чыніць гвалт над жонкай, каб не зрабіць грэх.

27 раджаба ( раджэба ) — 20 студзеня — свята ал-Ісра ва-л-Мірадж — начное падарожжа і ўзнясенне прарока Мухаммеда.

29 раджаба ( раджэба ) — 22 студзеня — маладзіковая пятніца

| шаабан (шаўбан), 1413 / рамазан 1413 | | люты (февраль) |
|---|---|---|
| 10 | Пн | 1 |
| 11 | Ат | 2 |
| 12 | Ср | 3 |
| 13 | Чц | 4 |
| 14 | Пт | 5 |
| 15 | Сб | 6 |
| 16 | Нд | 7 |
| 17 | Пн | 8 |
| 18 | Ат | 9 |
| 19 | Ср | 10 |
| 20 | Чт | 11 |
| 21 | Пт | 12 |
| 22 | Сб | 13 |
| 23 | Нд | 14 |
| 24 | Пн | 15 |
| 25 | Ат | 16 |
| 26 | Ср | 17 |
| 27 | Чц | 18 |
| 28 | Пт | 19 |
| 29 | Сб | 20 |
| 30 | Нд | 21 |
| 1 | Пн | 22 |
| 2 | Ат | 23 |
| 3 | Ср | 24 |
| 4 | Чц | 25 |
| 5 | Пт | 26 |
| 6 | Сб | 27 |
| 7 | Нд | 28 |

А б ы х о д ж а н е. Добры муж не пакіне цяжарную жонку, стараецца яе не трывожыць, зберагае ад злога намеру, цяжкасцей, голаду і ўсялякіх нягод. Не трэба варажыць аб тым, народзіцца хлопчык ці дзяўчынка. Гэта ведама толькі Аллагу. Звычайна бацька хоча, каб першае дзіця нарадзілася хлапчуком. Але калі Аллаг пасылае бацькам дачку, Ён лічыць гэта яшчэ больш высокай узнагародай, якой адорвае найлепшых і любімых падданых. Таму жанчына, якая нарадзіла дачку — шчаслівая, а мужчына прыемны Аллагу і любімы Ім.

С л о в а н а с т а ў л е н н я. Мужчына, які лічыць сябе сапраўдным мусульманінам, павінен адносіцца да жонкі ўсё больш беражна і ўважліва, па меры таго, як даспявае плод у чэраве маці. Блізкасці цяпер быць не павінна. Нельга крыўдзіць дзіця ў чэраве маці. Інакш дзіця вырасце непаслухмяным і, стаўшы дарослым, на старасці адплаціць бацьку за крыўду.

М е с ц а д л я ж а н ч ы н ы. Для цяжарнай жанчыны або парадзіхі павінна быць чыстым, паветра — свежым, ложак — мяккім. Не трэба карыстацца шаўковымі і атласнымі тканінамі.

Будучая маці павінна быць прыкрыта ад дрэннага вока белай фіранкай. Кажуць, што каля галавы цяжарнай жанчыны два анёлы ў выглядзе

1 рамазана — 22 лютага — пачатак посту Ураза
5 рамазана — 26 лютага — маладзіковая пятніца

| рамазан, 1413 / шаўвал (шаввал) | | сакавік (март) |
|---|---|---|
| 8 | Пн | 1 |
| 9 | Ат | 2 |
| 10 | Ср | 3 |
| 11 | Чц | 4 |
| 12 | Пт | 5 |
| 13 | Сб | 6 |
| 14 | Нд | 7 |
| 15 | Пн | 8 |
| 16 | Ат | 9 |
| 17 | Ср | 10 |
| 18 | Чц | 11 |
| 19 | Пт | 12 |
| 20 | Сб | 13 |
| 21 | Нд | 14 |
| 22 | Пн | 15 |
| 23 | Ат | 16 |
| 24 | Ср | 17 |
| 25 | Чц | 18 |
| 26 | Пт | 19 |
| 27 | Сб | 20 |
| 28 | Нд | 21 |
| 29 | Пн | 22 |
| 30 | Ат | 23 |
| 1 | Ср | 24 |
| 2 | Чц | 25 |
| 3 | Пт | 26 |
| 4 | Сб | 27 |
| 5 | Нд | 28 |
| 6 | Пн | 29 |
| 7 | Ат | 30 |
| 8 | Ср | 31 |

белых галубоў, якіх не ўбачыць простым вокам. Яны не дапускаюць да пасцелі шайтана і ўсялякую нячыстую сілу. Роды прымае фельчарка ці бабка-павітуха, якая зробіць усё, што належыць.

Адносіны. Згодна з Суннай, бацька-мусульманін павінен быць уважлівым да дзіцяці. Як вядома з хадзісаў ( выказванняў прарока Мухаммеда ) у нованароджаным немаўляці ёсць водблеск раю, ён быццам праменьчык святла і радасці, які выходзіць са свету вечнага шчасця. Таму мужчына, які стаў бацькам, не хавае сваю радасць, заходзіць да маці і немаўляці, дакранаючыся тым самым да райскага шчасця. Гэта права, ад якога бацька не адмаўляецца.

Пры ўваходзе ў пакой, дзе знаходзіцца немаўля, бацька павінен глядзець на яго з радасцю, ці гэта дзяўчынка, ці хлопчык. І тое і другое — шчасце. Недапушчальна, каб мужчына гаварыў словы накшталт: "Не можа быць, каб гэта было маё дзіця", або "Зусім на мяне не падобны". Калі дзіця нарадзілася ў яго доме, знчыць, яно належыць яму.

Мужчына, які стаў бацькам, павінен павіншаваць жонку і перш за ўсё падзякаваць Аллагу. Належыць накарміць парадзіху свежым або сушаным урукам, або стравай з яго. Падышоўшы да немаўляці, мужчына павінен прачытаць яму у правае вуха азан, а ў левае — камэт ( малітву ) і паднесці да вуснаў дзіцяці спелую хурму, як бы частуючы яго.

Немаўля загортваюць у белую або жоўтую пялёнку ( біляў ) і прыносяць маці.

1 — 3 шаўвал ( шаввал) — 24 — 26 сакавіка — свята Рамазан-Байрам

3 шаўвала ( шаввала ) — 26 сакавіка — маладзіковая пятніца

| | | | |
|---|---|---|---|
| зу-ль-каадда (зіль-каадда), 1413 | 10 | Сб | 1 |
| | 11 | Нд | 2 |
| | 12 | Пн | 3 |
| | 13 | Ат | 4 |
| | 14 | Ср | 5 |
| | 15 | Чц | 6 |
| | 16 | Пт | 7 |
| | 17 | Сб | 8 |
| | 18 | Нд | 9 |
| | 19 | Пн | 10 |
| | 20 | Ат | 11 |
| | 21 | Ср | 12 |
| | 22 | Чц | 13 |
| | 23 | Пт | 14 |
| | 24 | Сб | 15 |
| | 25 | Нд | 16 |
| | 26 | Пн | 17 |
| | 27 | Ат | 18 |
| | 28 | Ср | 19 |
| | 29 | Чц | 20 |
| | 30 | Пт | 21 |
| зу-ль-хадджа (зіль-хадджа), 1413 | 1 | Сб | 22 мая |
| | 2 | Нд | 23 |
| | 3 | Пн | 24 |
| | 4 | Ат | 25 |
| | 5 | Ср | 26 |
| | 6 | Чц | 27 |
| | 7 | Пт | 28 |
| | 8 | Сб | 29 |
| | 9 | Нд | 30 |
| | 10 | Пн | 31 |

Як вучыць Сунна, з нагоды нараджэння дзіцяці прадугледжана гакыйка ( ахвярапрынашэнне ), у час якога рэжуць барана.

Да ведама. Калі нарадзіўся хлопчык, то ў знак радасці трэба зарэзаць двух бараноў, калі дзяўчынка — можна абмежавацца адным бараном. Пажадана, каб бараны былі добра адкормлены.

Калі рэжуць барана, то навучоны мусульманін ці запрошаны мулла павінен прачытаць адпаведную малітву. У малітве называюць імя бацькі дзіцяці з просьбай да Аллага залічыць ахвяру ў лік божага раба ( называецца бацька ).

Часткі ахвярнага барана гатуюцца паасобку, пры гэтым іх нельга секчы сякерай, а толькі рэзаць мяса нажом. Задню частку ў сырым выглядзе трэба аддаць бабцы-павітусе. Астатнія часткі ў цэлым выглядзе, не рассякаючы, гатуюцца, як ужо мовілася, паасобку. Калі мяса згатавана, у хату клічуць суседзяў, радню жонкі і мужа, пры гэтым павінна выказвацца ўсім гасцям аднолькавая павага, бо богаўгоднасць гэтага мерапрыемства залежыць ад таго, ці застануцца госці задаволенымі. Усім прысутным бацькамі дзіцяці раздаецца хаер-садака ( грошы ). Бедных і абяздоленых таксама не абыходзяць пачастункам. Пасля гэтага пачынаюць святкаваць радасную падзею.

П р а в і л а. На сёмы дзень пасля нараджэння дзіцяці яму стрыгуць валасы.

30 зу-ль-каадда ( зіль-каадда ) —21 мая — маладзіковая пятніца

Свята Курбан-Байрам пачынаецца 10 зу-ль-хадджа ( зіль-хадджа ) — 31 мая і святкуецца тры дні

| Месяц хіджры | Дзень | Дзень тыдня | чэрвень (июнь) |
|---|---|---|---|
| зу-ль-хаджжа (зіль-хаджжа), 1413 | II | Ат | I |
| | I2 | Ср | 2 |
| | I3 | Чц | 3 |
| | I4 | Пт | 4 |
| | I5 | Сб | 5 |
| | I6 | Нд | 6 |
| | I7 | Пн | 7 |
| | I8 | Ат | 8 |
| | I9 | Ср | 9 |
| | 20 | Чц | I0 |
| | 21 | Пт | II |
| | 22 | Сб | I2 |
| | 23 | Нд | I3 |
| | 24 | Пн | I4 |
| | 25 | Ат | I5 |
| | 26 | Ср | I6 |
| | 27 | Чц | I7 |
| | 28 | Пт | I8 |
| | 29 | Сб | I9 |
| | 30 | Нд | 20 |
| мухаррам (мухаррэм), 1414 | I | Пн | 2I |
| | 2 | Ат | 22 |
| | 3 | Ср | 23 |
| | 4 | Чц | 24 |
| | 5 | Пт | 25 |
| | 6 | Сб | 26 |
| | 7 | Нд | 27 |
| | 8 | Пн | 28 |
| | 9 | Ат | 29 |
| | I0 | Ср | 30 |

Стрыжка валасоў на сёмы дзень абазначае ачышчэнне і кладзе пачатак выкананню законаў Сунны, таму гэты абрад для мусульманіна з"яўляецца справай значнай і богаўгоднай.

А б р а з а н н е. У кнігах сказана, што абразанне ( сюннет ) пайшло ад часоў Ібрагіма. Абразанне ёсць знак чысціні і здароўя і для мусульман з"яўляецца загадам, аднак строгае выкананне яго не абавязковае. У наш час абразанне робіцца ў бальніцах, са скарыстаннем абязбольваючых сродкаў, таму вы зробіце правільна, калі звернецеся менавіта туды.

## БУДАЎНІЦТВА МУСУЛЬМАНСКАГА ДОМУ

Д а в е д а м а. Калі хто-небудзь надумаецца будаваць для сваей сям"і дом, у гэтым выпадку ён павінен успомніць Аллага. Сунна ўхваляе, калі памеры дома невялікія. Праяўляць гордасць і імкнуцца да вялікіх памераў лічыцца заганным. Шарыят вучыць, што калі хто-небудзь пабудуе дом, вялікі і прасторны як склад і пражыве ўсё жыццё ў самотнасці, то ў дзень Апошняга Суда яго чакаюць непрыемнасці.

Кажуць, што прарок Ібрагім і яго сын Ісмаіл, калі ўзводзілі аль-Каабу, то кожны дзень яны клалі адзін рад цэглы. Зыходзячы з гэтага, цэглу паводле шарыяту раіцца класці не больш за адзін рад у дзень, калі дом з

Новы I4I4 год хіджры святкуецца I мухаррама ( мухаррэма ) — 2I чэрвеня
5 мухаррама ( мухаррэма ) — 25 чэрвеня — маладзіковая пятніца

| мухаррам (мухаррэм), 1414 / сафар, 1414 | | ліпень (июль) |
|---|---|---|
| II | Чц | I |
| I2 | Пт | 2 |
| I3 | Сб | 3 |
| I4 | Нд | 4 |
| I5 | Пн | 5 |
| I6 | Ат | 6 |
| I7 | Ср | 7 |
| I8 | Чц | 8 |
| I9 | Пт | 9 |
| 20 | Сб | I0 |
| 21 | Нд | II |
| 22 | Пн | I2 |
| 23 | Ат | I3 |
| 24 | Ср | I4 |
| 25 | Чц | I5 |
| 26 | Пт | I6 |
| 27 | Сб | I7 |
| 28 | Нд | I8 |
| 29 | Пн | I9 |
| I | Ат | 20 |
| 2 | Ср | 21 |
| 3 | Чц | 22 |
| 4 | Пт | 23 |
| 5 | Сб | 24 |
| 6 | Нд | 25 |
| 7 | Пн | 26 |
| 8 | Ат | 27 |
| 9 | Ср | 28 |
| I0 | Чц | 29 |
| II | Пт | 30 |
| I2 | Сб | 3I |

камянеў ці цэглы, і па аднаму вянку бярвенняў, калі дом будуюць з дрэва.

Так трэба рабіць не таму, каб як найбольш зама рудзіць час, а наадварот, каб дом атрымаўся дыхтоўны, даўгавечны. Зрабіць зруб, добра яго прасушыць — справа не простая і патрабуе шмат часу. Але калі зруб зроблены і прасушаны, перавезці яго на патрэбнае месца і скласці можна за адзін дзень — гэта не пярэчыць татарскім і мусульманскім звычаям, якія засталіся нам ад продкаў.

Правіла першае. Калі выбрана добрае месца для пабудовы жылога дома, трэба прачытаць дуа ( малітву ).

Правіла другое. Пабудаваўшы дом, многія пачынаюць упрыгожваць яго сцены і карнізы, бо упрыгожыць дом — гэта усё роўна, як чалавека апрануць у прыгожае адзенне. Найлепш будзе, калі дом упрыгожыць раслінным ці якім іншым арнаментам, без малюнкаў жывых істот. Таму што у іншым выпадку дом не будзе прыстанішчам для анёлаў, яны будуць абыходзіць яго стараной. Гэта тлумачыцца тым, што выявы, па-першае, патрабуюць у анёлаў, каб яны далі ім душу, а па-другое, спрабуюць у анёлаў адабраць крылы.

Правіла трэцяе. Кожны мусульманін, які трымаецца Сунны, павінен утрымліваць дом і панадворак у чысціні і парадку. Ён не павінен забываць, што чысціня чалавека праяўляецца у яго сумленнасці і у чысціні цела і жылля.

---

4 сафара — 23 ліпеня — маладзіковая пятніца

Сафар, 1414 — рабі аль-аўваль (рабі уль-авваль), 1414 — жнівень (аўгуст)

| | | |
|---|---|---|
| I3 | Нд | I |
| I4 | Пн | 2 |
| I5 | Ат | 3 |
| I6 | Ср | 4 |
| I7 | Чц | 5 |
| I8 | Пт | 6 |
| I9 | Сб | 7 |
| 20 | Нд | 8 |
| 21 | Пн | 9 |
| 22 | Ат | I0 |
| 23 | Ср | II |
| 24 | Чц | I2 |
| 25 | Пт | I3 |
| 26 | Сб | I4 |
| 27 | Нд | I5 |
| 28 | Пн | I6 |
| 29 | Ат | I7 |
| 30 | Ср | I8 |
| I | Чц | I9 |
| 2 | Пт | 20 |
| 3 | Сб | 21 |
| 4 | Нд | 22 |
| 5 | Пн | 23 |
| 6 | Ат | 24 |
| 7 | Ср | 25 |
| 8 | Чц | 26 |
| 9 | Пт | 27 |
| I0 | Сб | 28 |
| II | Нд | 29 |
| I2 | Пн | 30 |
| I3 | Ат | 3I |

П р а в і л а  ч а ц в ё р т а е. Сапраўдны мусульманін не будзе трымаць у сваей хаце сабаку. Сабак — памочнікаў пастухоў дазваляецца ўпускаць у хату, але лепш, калі яны не будуць пераходзіць парог хаты. Іншых свойскіх жывёл трымаць можна, але яны павінны жыць у клетцы ці ў іншым, прызначаным для іх месцы.

П р а в і л а  п я т а е. У кожным доме павінна быць спецыяльнае месца для вуду ( абмывання ) і месца для натуральнай патрэбы. Месца гэта павінна утрымлівацца у чысціні і мець добрую вентыляцыю.

П р а  ў н у т р а н н а е  у п р ы г а ж э н н е  д о м а. Як вядома, у доме павінна быць цёпла ў халоднае надвор"е і халаднавата у спёку. Для гэтага у халады цепляць печ, а у летнія дні ўвільгатняюць падлогу. Так захоўваецца чысціня і падтрымліваецца патрэбная тэмпература і вільготнасць. У татарскіх вёсках на сцены вешаюць дываны ці вышыўкі і аплікацыі Не раіцца толькі вешаць выявы жывёл. Таксама трэба быць асцярожным з выявамі людзей. Падоўгу разглядаць выявы на сценах, звяртацца да іх і гаварыць да іх лічыцца грахом. Таму лепш за ўсё зробіць той, хто павесіць на сцены мугір — выслоўе з Кур"ана, якое можа быць з малюнкам славутай мячэці. Мугір трэба замацаваць на сцяне, каб святое слова указвала напрамак на аль-Каабу.

---

Дзень нараджэння прарока Мухаммеда — I2 рабі аль-аўваля ( рабі уль-авваля ) — 30 жніўня .....

2 рабі аль-аўваля ( рабі уль-авваля ) — 20 жніўня— маладзіковая пятніца

| Месяц | | | | Верасень (сентябрь) |
|---|---|---|---|---|
| рабі аль-аўваль (рабі уль-аўваль), I4I4 | I4 | Ср | I | |
| | I5 | Чц | 2 | |
| | I6 | Пт | 3 | |
| | I7 | Сб | 4 | |
| | I8 | Нд | 5 | |
| | I9 | Пн | 6 | |
| | 20 | Ат | 7 | |
| | 2I | Ср | 8 | |
| | 22 | Чц | 9 | |
| | 23 | Пт | I0 | |
| | 24 | Сб | II | |
| | 25 | Нд | I2 | |
| | 26 | Пн | I3 | |
| | 27 | Ат | I4 | |
| | 28 | Ср | I5 | |
| | 29 | Чц | I6 | |
| рабі ас-сані (рабі уль-ахыр), I4I4 | I | Пт | I7 | |
| | 2 | Сб | I8 | |
| | 3 | Нд | I9 | |
| | 4 | Пн | 20 | |
| | 5 | Ат | 2I | |
| | 6 | Ср | 22 | |
| | 7 | Чц | 23 | |
| | 8 | Пт | 24 | |
| | 9 | Сб | 25 | |
| | I0 | Нд | 26 | |
| | II | Пн | 27 | |
| | I2 | Ат | 28 | |
| | I3 | Ср | 29 | |
| | I4 | Чц | 30 | |

Я к  у в а х о д з і ц ь  у  д о м. Па-першае, ніколі нельга наступаць на парог, цераз яго трэба пераступіць. У дом лепш уваходзіць з правай нагі.

Увайшоўшы ў дом, трэба павітацца з гаспадарамі і ўсімі прысутнымі. Калі пераступаеш парог, памяні імя Аллага, гэта прынясе ў дом шчасце і дабрабыт, памножыць яго багацце. Калі чалавек гэтага не зробіць, то ён грэшнік. Калі ў доме нікога не аказалася, то раіцца адзін або тры разы прачытаць суру з Кур"ана: "Куль гуаллагу — ахадун ... "

П а к о й  д л я  г а с ц е й. Згодна з шарыятам, у кожным доме павінен быць пакой для гасцей. У тых, хто больш заможны, гэта можа быць нават асобны дом. Кажуць, што пакой для гасцей — увасабленне чысціні і парадку.

С п а н н е. Не раіцца заставацца ў доме ноччу аднаму — лепш паклікаць каго-небудзь. Таксама не раіцца спаць у недабудаваным доме, без даху, дзвярэй і незакрытых фіранкамі вокнах. Вечарам, калі шарэе, трэба завешаць фіранкі ( на іх не павінна быць выяў жывёл). Таксама трэба зачыніць дзверы, пагасіць святло. Каганец мусульманам пакідаць не раіцца.

Д а  в е д а м а. Мусульманам трэба асцерагацца жыць у адной хаце з няверным. У мінулыя часы мусульмане пакідалі дамы язычнікаў і няверных. У гэтым выпадку пра іх казалі, што яны "атрымалі волю".

I рабі ас-сані ( рабі уль-ахыр ) — I7 верасня — маладзіковая пятніца

| Месяц (хіджра) | Дзень | | Дзень | Месяц |
|---|---|---|---|---|
| рабі ас-сані ( рабі уль-ахыр ), 1414 | 15 | Пт | 1 | кастрычнік ( октябрь ) |
| | 16 | Сб | 2 | |
| | 17 | Нд | 3 | |
| | 18 | Пн | 4 | |
| | 19 | Ат | 5 | |
| | 20 | Ср | 6 | |
| | 21 | Чц | 7 | |
| | 22 | Пт | 8 | |
| | 23 | Сб | 9 | |
| | 24 | Нд | 10 | |
| | 25 | Пн | 11 | |
| | 26 | Ат | 12 | |
| | 27 | Ср | 13 | |
| | 28 | Чц | 14 | |
| | 29 | Пт | 15 | |
| джумада аль-уля ( джумада-ль-аввал ) | 1 | Сб | 16 | |
| | 2 | Нд | 17 | |
| | 3 | Пн | 18 | |
| | 4 | Ат | 19 | |
| | 5 | Ср | 20 | |
| | 6 | Чц | 21 | |
| | 7 | Пт | 22 | |
| | 8 | Сб | 23 | |
| | 9 | Нд | 24 | |
| | 10 | Пн | 25 | |
| | 11 | Ат | 26 | |
| | 12 | Ср | 27 | |
| | 13 | Чц | 28 | |
| | 14 | Пт | 29 | |
| | 15 | Сб | 30 | |
| | 16 | Нд | 31 | |

## НА ЛЮДЗЯХ

П р а в і л а. Выходзячы з дому на вуліцу прававерны мусульманін павінен успомніць Аллага: "Бісміллягі вэ таваккэлту галеллаг вэ ля хауле вэ ля куввэтэ,ілля біллягіл галііилгазыйм" ( значэнне: "Выходжу з хаты і імем Аллага на вуснах і давяраю сябе Яму, няма нікога мацнейшага і магутнейшага за Яго, няма нікога, хто б быў так вольны ад недахопаў, спадзяюся толькі на дапамогу Яго"..) Гэтыя словы трэба прамовіць, верачы ў тое, што гаворыш, затым прачытаць "Аятэлкурсі". Гэта павінна дапамагчы чалавеку у дарозе, каб ён не зблудзіў ( літаральны і маральны сэнс ), не збіўся з правільнага шляху, пазбег памылак.

Прававернаму трэба ісці па вуліцы хутка, але не мітусліва. Павольная хадзьба і задзёртая ўверх галава лічыцца прыкметай фанабэрыстасці.

Мусульманіну не трэба перасякаць дарогу жанчыне і пераходзіць паміж двумя жанчынамі. Пры сустрэчы з сябрамі і роднымі трэба прывітаць іх, калі ж хто-небудзь павітаецца, то адказаць ім. Спыняцца і доўга размаўляць на вуліцы — справа не пахвальная. Смаркацца і пляваць — гэта праяўляць дрэнныя звычкі.

Калі мусульманіну трапіцца зблудзіўшы і нямоглы чалавек, то трэба яму дапамагчы, паказаць дарогу.

Чалавеку, калі ён не займаецца гандлем, не варта падоўгу быць на рынку. Не варта гля-

29 рабі ас-сані ( рабі уль-ахыр ) — 15 кастрычніка — малалдзіковая пятніца

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Джумада аль-уля (Джумазіль-аўваль) | 17 | Пн | 1 | Лістапад (ноябрь) |
| | 18 | Ат | 2 | |
| | 19 | Ср | 3 | |
| | 20 | Чц | 4 | |
| | 21 | Пт | 5 | |
| | 22 | Сб | 6 | |
| | 23 | Нд | 7 | |
| | 24 | Пн | 8 | |
| | 25 | Ат | 9 | |
| | 26 | Ср | 10 | |
| | 27 | Чц | 11 | |
| | 28 | Пт | 12 | |
| | 29 | Сб | 13 | |
| | 30 | Нд | 14 | |
| Джумада аль-ахіра (Джумазіль-ахыр) | 1 | Пн | 15 | |
| | 2 | Ат | 16 | |
| | 3 | Ср | 17 | |
| | 4 | Чц | 18 | |
| | 5 | Пт | 19 | |
| | 6 | Сб | 20 | |
| | 7 | Нд | 21 | |
| | 8 | Пн | 22 | |
| | 9 | Ат | 23 | |
| | 10 | Ср | 24 | |
| | 11 | Чц | 25 | |
| | 12 | Пт | 26 | |
| | 13 | Сб | 27 | |
| | 14 | Нд | 28 | |
| | 15 | Пн | 29 | |
| | 16 | Ат | 30 | |

дзець на цэны, на тавар, калі не купляеш. Прадаўцу, які махлюе, калі-небудзь гэта прыпомніцца як парушэнне шарыяту.

Нельга абражаць і крычаць на тых, хто належыць да іншай веры. Наадварот, да іх трэба ставіцца са спагадай, бо яны не ведаюць, што робяць.

Калі ў якога-небудзь прававе рнага ёсць прыватныя справы з няверным або язычнікам, то нельга прайсці каля яго, не павітаўшыся. Тахарэт ( абдэс ) пры гэтым не парушыцца, бо у аснове шарыяту закон — не крыўдзіць, не зневажаць людзей і не пакідаць іх без увагі.

У мусульманскіх кнігах шмат напісана пра тое што звычай вітацца адыграў немалую ролю у пашырэнні мусульманства. Таму той, хто лічыць сябе мусульманінам, сустрэўшыся на вуліцы другі і трэці раз у адзін дзень, павінен абмяняцца прывітаннем. Салям ніколі не бывае лішнім, гэта павінен ведаць кожны.

Калі па дарозе мусульманіну трапіцца група людзей, то трэба зычна і выразна павітацца з імі, каб пачулі нават глухаватыя. Яны павінны адказаць, бо за гэта іх чакае бласлаўленне Аллага. Жанчынам і дзяўчатам трэба даць салям. Магчыма, што яны жонкі ці дочкі родных і сяброў. Прыняць ад іх салям і адказаць тым жа лічыцца выкананнем Сунны. Ніколі не трэба забываць павітацца і са старым, і з малым.

5 джумада аль-ахіра ( джумазіль-ахыр ) —19 лістапада — маладзіковая пятніца

джумада-ль-ахіра ( джумадзі-ль-ахір ), 1414

раджаб ( раджэб ), 1414

снежань ( декабрь )

| | | |
|---|---|---|
| I7 | Ср | I |
| I8 | Чц | 2 |
| I9 | Пт | 3 |
| 20 | Сб | 4 |
| 2I | Нд | 5 |
| 22 | Пн | 6 |
| 23 | Ат | 7 |
| 24 | Ср | 8 |
| 25 | Чц | 9 |
| 26 | Пт | I0 |
| 27 | Сб | II |
| 28 | Нд | I2 |
| 29 | Пн | I3 |
| 30 | Ат | I4 |
| I | Ср | I5 |
| 2 | Чц | I6 |
| 3 | Пт | I7 |
| 4 | Сб | I8 |
| 5 | Нд | I9 |
| 6 | Пн | 20 |
| 7 | Ат | 2I |
| 8 | Ср | 22 |
| 9 | Чц | 23 |
| I0 | Пт | 24 |
| II | Сб | 25 |
| I2 | Нд | 26 |
| I3 | Пн | 27 |
| I4 | Ат | 28 |
| I6 | Ср | 29 |
| I7 | Чц | 30 |
| I8 | Пт | 3I |

Калі у хаце, куды увойдзеш, знаходзіцца адразу некалькі чалавек, то трэба іх прывітаць усіх разам. У гэтым выпадку мовяць "Ассаляму алейкум вэ рахматуллах вэ баракятугу !" ( значэнне: "Няхай апякуецца над вамі Усявышні, няхай адорыць Ён вас боскай ласкай і шчасцем !" ). Калі людзі абменьваюцца такімі добрымі прывітаннямі, душа напаўняецца радасцю, а у душы пранікае дух Іману ( веры ), адступае смутак і трывога, прыемна і самому чалавеку, які выказаў добрае пажаданне.

Калі праз цябе перадаюць паклон сябру ці радні, трэба выканаць просьбу, не марудзячы, бо паклон тое ж, што і эманат ( рэч, давераная на сховы ). Не апраўдаць чый-небудзь давер — грэх для мусульманіна ці мусульманкі.

Кажуць, што чалавека можна распазнаць па колькасці прыветаў. Калі чалавеку ніхто не перадае паклон, то ці добры гэта мусульманін ?

Пры вітанні шарыят раіць выконваць наступны парадак: малады першым вітае старэйшага па узросту, конны — пешага, той, хто ідзе — таго што сядзіць, больш далікатны — менш далікатнага.

---

Паважаны чытач ! Парайце нам, што на вольным месцы надрукаваць у календары на 1994 год.

Салям алейкум, дарагія мусульмане !

---

3 раджаба ( раджэба ) — I7 снежня — маладзіковая пятніца

# СЛОЎНІК ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

( тэрміны на літары Б, В і дадатак на літару А )

Складзены на падставе даведнікаў і манаграфічнай літаратуры. Вялікія літары абазначаюць скарочанае імя і прозвішча ( ці прозвішчы) аўтараў манаграфій, лічбы — старонку, дзе тэрмін ужыты.

БД — Пётр Бараўскі і Аляксандр Дубіньскі "Польскія татары. Гісторыя, абрады, легенды, традыцыі", 1986;

ЯТ — Ян Тышкевіч "Татары ў Літве і Польшчы", 1989;

АМ — Алі Міськевіч "Польскія татары 1918 — 1939", 1990;

Г — Зыгмунт Глогэр "Ілюстраваная старапольская энцыклапедыя", Т. I — 4, 1958.

БА, назва літары Б

БАБ, глава, раздзел кнігі

БАГАДУР, Б а г а т ы р, хан, гл. ў арт. Крымскае ханства

БАГАТЫР, б а т ы р, АМ

БАГДАНОВІЧ Гаабдыж, ЯТ 200, гл. Лоўчыцкія

БАГДАНОВІЧ Лявон, навуковец, АМ 139

БАГДАНОВІЧ Міхаіл, ротмістр, АМ

БАГДАНОВІЧ Якуб, дырэктар семінарыі ў Сімферопалі, АМ 27

БАГДАНОВІЧ Я., навуковец, БД 267

БАГОНІКІ, татарская вёска ў Польшчы, БД 61; АМ 59

БАГОНІЦКАЯ МЯЧЭЦЬ ( з 1680 г. ), БД 61

БАГОНІЦКІ ДЖАМІЯТ, АМ 167; БД 171

БАГРЫМСКАЕ ХАРУНЖАСТВА, БД 208

БАГРЫНСКІЯ, мурзы, БД 54

БАГРЫНЫ, род крымскіх татараў, БД 44

БАГУШЭВІЧ, князь

БАДР, месца бітвы войска Мухаммеда з язычнікамі

БАЗАР

БАЗАРСКАЯ МЯЧЭЦЬ, Трокскі павет, БД 60

БАЗАРЫ, татарская вёска ў Літве, БД 60, 166

БАЗАРЭЎСКІ, князь

БАЗАРЭЎСКІ Стафан, навуковец, АМ 15, 36, 42, 44, 47, 75, 118, 144, 153, 166, 184

БІСКІЧ, указанне, як чытаць слова, выраз; вучань-пачатковец
БІСМІЛЛАГ, тое што б а с м а л а
БІСУРМАН, збісурманіцца, Г, т.І
БІТВА ГЕДЫМІНА З КРЫЖАКАМІ У 1321 ( ліцвінам дапамагалі татары )
БІЦЮТКА Канстанцін, генерал, БД 135
БІЦЮТКА Пауліна, навуковец, АМ 8
БІЧАВАННЕ, пакута, Г, т.І, с.168
БОГ, гл. Аллаг
БОЛЬ, урына, мача
БОНА, каралева, БД 236
БРАНІЦКІ Ян Клеманс, гетман, БД 114
БРАСЛАЎ, АМ 59
БРАТЫ-МУСУЛЬМАНЕ, ісламская арганізацыя
БРАЦТВЫ МУСУЛЬМАНСКІЯ
БРАТЫ ШЛЮБНЫЯ, Г, І, гл. таксама ахрэць, ахрэтаванне
БУЛАЙДА, верш, які паутараецца пры 4-х ракаатах таравіху
БУДЖАЦКІЯ ТАТАРЫ, АМ 168, 169
БУЗДЫГАН, зброя, мачуга, кісцень, Г, т.І
БУЛАВА, сімвал гетманскай улады, Г, т.І
БУЛАТ, хан, АМ 124
БУЛАТБЕК, хан, гл. у арт. Залатая Арда
БУЛАНЫ, конь, ад татарскага слова лось, Г, т.І
БУЛГАРЫ ВОЛЖСКІЯ, цюркскі і мусульманскі народ
БУЛА БАНІФАЦЫЯ ІХ АБ КРЫЖОВЫМ ПАХОДЗЕ СУПРОЦЬ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН
БУНЧУК, БД 167; АМ 158, Г, т.І
БУРАК, аль-Б у р а к, цудоўная жывёла, на якой падарожнічаў Мухаммед
БУРДЗЮК, мех для вадкага рэчыва
БУРКА, адзенне, Г, т.І, с.216
БУРУДЖ, аль-Б у р у д ж, 85-я сура з Кур"ана
БУРУНЧУК, татарскае празрыстае палатно, Г, т.І
БУТРЫМАНЦЫ, татарская вёска у Літве, БД 166
БУХАРЫ Мухаммед, ал-Б у х а р ы, факіх, укладальнік сунны
БУЧАЦКАЯ Разалія, удзельніца паўстання 1863 г., АМ 19
БУЧАЦКІ Аляксандр, удзельнік паўстання 1863 г., АМ 19
БУЧАЦКІ Мурза Тарак, навуковец, АТ 281, 282

Дадатак

## ПРОБНЫЯ АРТЫКУЛЫ ДЛЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

ААРАФ, а л ь - А а р а ф, 7-я сура з Кур"ана. Складаецца з 206 аятаў. Названа ад слова з 44-га аята ( у некаторых выданнях Кур"ана гэта 46-ы аят ) і абазначае Перашкоды. Некаторыя знаўцы лічаць, што назва суры — імя ўласнае.

Мусульманская навука адносіць гэтую суру да позняга меккан-скага цыкла, незадоўга да 622 года. Пра гэта сведчыць змест і прадстаўленая тут кур"анічная дактрына. Праблемы, што ўздымаюцца ў ёй, вельмі складаныя, але дамінуе матыў "супраціўленне Аллагу і Яго прарокам", пачынаючы ад шайтана-Ібліса праз барацьбу з Адамам і пра барацьбу няверных людзей з прарокамі, якіх пасылаў Аллаг. Зместам суры з"яўляюцца такія тэмы, як: грэх Адама і яго выгнанне і напамін яго нашчадкам. Прадстаўлены фігуры Нуха ( Ноя ), Худа, Саліха, Лута ( Лота ) і Шуайба; гісторыя Мусы ( Майсея ), Фараона і больш позняя гісторыя габрэяў; згадваецца пра апошняе імгненне, якое прыходзіць да чалавека нечакана. У суры неаднаразова ўпамінаецца мусульманская формула, што сцвярджае пра "аднаго і адзінага Аллага", які называецца вельмі часта ў мекканскіх сурах, таму што мекканскі перыяд быў часам стварэння перш за ўсё рэлігійнай дактрыны.

АБУ БАКР ( каля 572 — 23.8.634 ), першы пераемнік прарока Мухаммеда ў якасці духоўнага і свецкага главы мусульманскай дзяржавы. Нароўні з Умарам, Усманам і Алі належыць да чатырох праведных халіфаў. Паходзіў з племені Курайш, быў багатым купцом у г.Мекка. Адным з першых прыняў Іслам. Усю сваю маёмасць перадаў для пашырэння новай веры. Суправаджаў Мухаммеда ва ўсіх яго паездках і паходах. У Медыне яшчэ больш зблізіўся з Прарокам. Пасля смерці Хадыджы ( каля 619 — 620 г. ) — жонкі Мухаммеда Абу Бакр выдаў за Мухаммеда сваю дачку Айшу.

Непахісная вернасць прынцыпам Ісламу ў час зараджэння і станаўлення Ісламу адзначана Аллагам у Кур"ане ( сура Ат-Тауба, аят 40-ы ). Калі Мухаммед захварэў, ён прызначыў Абу Бакра кіраваць малебнамі мусульманскай абшчыны і той міжвольна аказаўся

на чале мусульман пасля смерці Настаўніка. Мухаджыры і ансары выбралі Абу Бакра халіфам і ён прыняў тытул "халіф расул Аллаг" ( намеснік пасланніка Аллага ).

Прыступаючы да выканання абавязкаў халіфа Абу Бакр сказаў: "Браты мае, я не самы лепшы сярод вас, таму мне патрэбны вашы парады і ваша дапамога. Калі я буду рабіць добра, падтрымайце мяне, калі ж я памылюся, скажыце мне. Верныкі заўсёды павінны гаварыць праўду. Утойваць недахопы правіцеля — значыць утойваць здраду ... Для мяне роўныя багатыя і бедныя, я хачу быць справядлівым і з тымі і з другімі. Падпарадкоўвайцесь мне так, як я падпарадкоўваюся Аллагу і Яго прароку. Калі ж я парушу законы Аллага і Яго Прарока, то я страчу права на вашае падпарадкаванне"

Абу Бакр стаў на чале мусульманскай дзяржавы ў 632 г. ў вельмі неспакойны час. Аб"явіліся ілжэпрарокі, якія абвясцілі аб адмене выплаты закяту і адпраўлення намазаў. Але за кароткі час Абу Бакр згуртаваў вакол сябе таленавітых і адданых Ісламу палітыкаў і вайскоўцаў. У час праўлення Абу Бакра Іслам пашырыўся на паўночную Сірыю і Палесціну, на ўсход Ірака.

Па загадзе Абу Бакра быў складзены першы зборнік адкравенняў Аллага, які пазней, ужо пры халіфе Усмане быў завершаны як Кур"ан Пахаваны ў Медыне ў мячэці, непадалёк ад магілы Мухаммеда. Абу Бакр вёў сціплы лад жыцця. За бязмежную адданасць Ісламу ён атрымаў ганаровую клічку ас-Сіддык — Справядлівы. Пра яго існуе многа паданняў.

АЕР, аер звычайны, татарская трава, ірны корань (Acorus calamus), прыбярэжна-водная расліна з сямейства ароннікавых. Радзіма — Індыя і Кітай. Лічыцца, што ў Еўропу аер быў завезены ў 16 ст. праз Турцыю і Партугалію.

Першае батанічнае апісанне і рысунак расліны з назвай Acorus calamus, што з грэчаскай мовы азначае "брыдкі кіек", апублікаваны ў 1601 г. батанікам Клузіусам. Ён з 1574 г. вырошчваў аер як экзатычную расліну, карэнішча якой прывезена са Стамбула ( Турцыя ). Сярод раслін, якімі ганарыліся вучоныя першага ў Еўропе Венскага батанічнага саду, быў і аер. Праз 20 гадоў польскі медык, які наведаў гэты сад, зазначыў, што экзатычная расліна аер расце ўсюды ў Літве. Гэта расліна вядома тут пад назвамі лепех, шувар, касатар, явар, ярай, яер. Гэта дае падставу меркаваць, што аер ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве быў вядомы раней, чым у Заходняй Еўропе,

скага хана Керым-Гірэя, каб ён прадстаўляў там інтарэсы канфедэрацыі. У 1781 — 1792 камандзір татарскага уланскага палка ў караля Станіслава Аўгуста. У красавіку 1794 палкоўнік Я.Азюлевіч адным з першых стаў пад штандар паўстанцаў. У чэрвені 1794 г. стрымліваў рускія войскі пад Брэстам, з 2-га жніўня 1794 г. абараняў Вільню. Загінуў у час кавалерыйскай атакі. Пахаваны на мізары пры мячэці у Студзянцы. Ад першай жонкі Мяр"емы з Юзафовічаў меў сыноў Давыда і Ібрагіма, ад другой жонкі Альжбеты з Крычыньскіх — сына Мустафу.

АЛЖЫР, дзяржава у паўночнай частцы Афрыкі. Тэрыторыя — 2381,7 тыс. кв. км. Насельніцтва каля 25,5 млн. чал. ( 1990 г. ), у асноўным алжырскія арабы ( 82 % ), жывуць таксама берберы ( кабілы, туарэгі ). Сярод еўрапейцаў ( каля 80 тыс. ) пераважаюць французы. Сталіца — Алжыр ( з прыгарадамі каля 3 млн. чал. ). Дзяржаўная мова — арабская, дзяржаўная рэлігія — Іслам.

Краіна багатая на прыродны газ і нафту ( яны даюць амаль 98 працэнтаў валютных паступленняў ), жалезную руду, ртуць, вальфрам, свінец і іншыя поліметалічныя руды, а таксама уран. Даволі спрыяльныя умовы для заняткаў сельскай гаспадаркай. Апрацоўваецца 7,5 млн. га зямлі. Пагалоўе ( млн. галоў ) на 1990 г. : буйной рагатай 1,6, авечак 17,7, коз 2,9, аслоў і мулаў 0,67, вярблюдаў 0,16, коней 0,17. Улоў рыбы — 69 тыс. т ( 1990 г. )

Здабыча нафты у 1986 г. склала 45 млн. т ( цяпер зменшылася ) газу — 76 млрд. куб. м. Здабываецца жалезная руда, фасфарыты, выпускаецца свінцовы, цынкавы, медны канцэнтрат. Апрацоўка сельскагаспадарчай сыравіны, чорная металургія, машынабудаванне, нафтахімічная, хімічная, электратэхнічная і інш. галіны прамысловасці. Дзяржаўнаму сектару належыць 70 % усей эканамічнай дзейнасці краіны.

У 7 — пач. 8 ст. тэрыторыю Алжыра занялі арабскія плямёны. Алжыр стаў часткай Арабскага халіфата, затым Абасідаў халіфата. Карэнныя берберскія плямёны паступова прынялі Іслам. Большая частка берберскіх плямёнаў змяшалася з арабамі і прыняла арабскую мову. Адбылася далейшая арабізацыя краіны. З 2-й пал. 16 ст. Алжыр — правінцыя Асманскай імперыі. У гэты перыяд вылучыліся граніцы Алжыра, якія размежавалі яго з Тунісам і Марока. Насельніцтва краіны пачало называць сябе алжырцамі, складваецца алжыр-

ская народнасць. У 18 ст. мясцовыя ваенна-феадальныя вярхі ( дэі ) дамагліся аўтаноміі, а неўзабаве, выкарыстаўшы аслабленне Асманскай імперыі, і незалежнасці дзяржавы з выбарным дэям на чале.

З 1830 да 1962 года Алжыр быў калоніяй Францыі. З 1954 па 1962 г. алжырскі народ вёў збройную барацьбу супроць французскіх каланізатараў. Першым прэзідэнтам вольнага Алжыра быў выбраны Бен Бэла. У час вызваленчай вайны вялікія тэрыторыі ў Алжыры былі заняты міннымі палямі, якія і ў мірныя часы стваралі вялікую пагрозу для людзей, перашкаджалі скарыстанню зямлі пад ворыва і пашу. Сваімі сіламі размініраваць небяспечныя участкі Алжыр не мог. На дапамогу прышлі спецыялісты з былога СССР, нямала было сярод іх грамадзян Беларусі. У час гэтай небяспечнай працы, якая цягнулася гадамі, нямала нашых грамадзян загінула.

Самыя старажытныя помнікі на тэрыторыі Алжыра — наскальныя неалітычныя малюнкі ( Тасілін-Анджэр, Тасілін-Ахакгар ). Ад часоў фінікійскага, рымскага і візантыйскага панавання захаваліся руіны гарадоў Джэміла, Гіпон, Кікул, Тымгад, Тыпса і інш. з рэшткамі жылых дамоў, тэатраў, трыумфальных арак, мармуровая скульптура і мазаіка. З 7-га ст., пасля арабскага заваявання, ва ўмацаваных гарадах будаваліся мячэці з галерэямі вакол двара і арачнымі нефамі, вялікія палацы, з 14-га ст. — медрэсе. Захаваліся руіны гарадоў Ашыра і Седраты ( 10 ст. ), Кала-Бені-Хамад ( 11 ст. ). Лепшыя будынкі 13 — 14 ст. сканцэнтраваны ў Тлемсене і побач з ім ( напрыклад, мячэць і медрэсе бу Медыпен — класічны ўзор тагачаснай архітэктуры ). Будынкі ўпрыгожваліся разьбой па дрэве, штучным мармурам, кафляй. У 16 — 18 ст. турэцкія беі пабудавалі ў г.Алжыр і Канстанціне ўмацаванні, палацы, мячэці. У каланіяльны перыяд працавалі французскія архітэктары ( у 50-я г. 20 ст. Б.Зерфюс, П.А.Эмеры і інш.).

Станаўленне адзінай алжырскай літаратуры адбываецца ў 20 ст. ва ўмовах актыўнай антыкаланіяльнай барацьбы. Да гэтага часу развівалася літаратура і фальклор на арабскай мове і берберскай. У перыяд каланізацыі Алжыра ( 30 — 80-я г. 19 ст. ) узнікае патрыятычная паэзія супраціўлення ( араб. паэт Эмір Абд аль-Кадзір, берберскія паэты Сі Маханд)і, Мухаммед Белькаір ). У 20-я гады 20

ст. пад уздзеяннем шырокага нац. руху ў краінах арабскага Усходу ажывілася паэзія на арабскай мове. Яна адлюстроўвае вызваленчыя ідэі ў вобразах, узятых з арабскай класікі эпохі Сярэднявечча. Пасля першай сусветнай вайны нараджаецца нацыянальная драматургія. Трупа Рашыда Ксенціні ставіць п"есы, напісаныя ім на алжырскім дыялекце арабскай мовы. На 50-я гады прыпадае росквіт алжырскай літаратуры на французскай мове. Асабліва значныя дасягненні алжырскага французскамоўнага рамана. Мулуд Ферауп, Мулуд Мамеры, Мухаммед Дыб рэалістычна паказалі цяжкое жыццё народных мас пры каланіялізме. Крытычныя тэндэнцыі паглыбляюцца ў перыяд нацыянальна-вызваленчай вайны 1954-- 1962 гг. у творчасці Катэба Ясіна і Малека Хадада. Развіваецца і паэзія на французскай мове ( Жан Сенак, Хасін Бузахер, Міры Крэа ), якая знаходзіцца пад уплывам паэзіі Супраціўлення. Ствараюцца вершы, апавяданні, нарысы і на арабскай мове ( паэт Абу аль-Касім, Саадал, празаікі Ахмед Ашура, Зухур Ваніс, Абд аль-Вахід Ібрахім ).

Пярэдадзень алжырскай рэвалюцыі адзначаны п"есамі на арабскай мове пра гераічнае мінулае паўночнаафрыканцаў, іх барацьбу супраць заваёўнікаў ( "Ганібал" Ахмеда Таўфіка аль-Мадані, "Кахіна" Абдалаха Наккалі ). На французскай мове Катэб Ясін стварае драматычную тэтралогію "Кола рэпрэсій", насычаную пафасам антыкаланіялізму. Абвяшчэнне незалежнасці Алжыра ( 1962 г. ) адкрыла новы этап у развіцці нацыянальнай літаратуры, у адраджэнні айчыннай культуры і арабскай мовы, аднак не выключае далейшага развіцця літаратуры на французскай мове.

АЛЛАГУ АКБАР, фраза, якую мусульманін мовіць у розных абставінах. Гэты выраз азначае Аллаг Вялік. Аллагу Акбар уваходзіць у склад азану і намазу. Шырока выкарыстоўваецца ў арнаментальным афармленні мячэцяў, у надпісах на мугірах у жылых дамах.

Першы раз гэты выраз прымяніў прарок Мухаммед, калі пасля трох гадоў падполля мусульмане горада Меккі адкрыта абвясцілі пра існаванне Ісламу. Яны з воклічамі Аллагу Акбар — Ля Ілага Ільляллаг ! накіраваліся ў цэнтр Меккі. І ў наш час гэты воклич шырока выкарыстоўваецца ва ўсіх мусульманскіх згуртаваннях свету.

АНСАРЫ, у Аль-Кітабе беларускіх татарау э н с а р ы, жыхары Медыны з плямён аус і хазрадж, якія далі прытулак Мухаммеду і яго паплечнікам -мухаджырам, калі яны у 622 г. ( гл. Хіджра ) перасяліліся сюды з Меккі. Ансары і мухаджыры утварылі абшчыну на чале з Мухаммедам. У бітве з праціўнікамі Ісламу ансары пад Бадрам складалі асноўную баявую сілу Мухаммеда і перамаглі ворага. Ансары прымалі актыўны ўдзел у пашырэнні Ісламу і рассяліліся па усяму халіфату. У вялікіх арабскіх паселенях яны утварылі особныя кварталы і былі апорай маладой мусульманскай адміністрацыі. Ансары лічылі сябе сапраўднымі хавальнікамі асноў мусульманскай веры. Яны, асабіста знаёмыя з прарокам Мухаммедам, расказвалі пра тое, аб чым гаварыў і як паступаў Мухаммед. Запісаныя ад ансарау звесткі пра Мухаммеда і яго выслоўі сталі хадзісамі і асноўнай часткай Сунны.

Ансары нярэдка былі у апазіцыі да халіфау з дынастыі Амейядау. Апошняе вялікае выступленне ансарау — паўстанне супроць халіфа Язіда I ( 680 — 683 ) адбылося у 683 г. у Медыне, пры падаўленні якога было забіта не менш за 270 ансарау.

БАКАРА, а л ь - Б а к а р а, 2-я сура з Кур"ана. Складаецца з 286 аятау. Названа ад слова у 66-м аяце ( у некаторых выданнях Кур"ана гэты аят ідзе пад нумарам 68, 71 ) і абазначае Карову. Гэта самая доўгая сура у Ку"ане. Паявілася яна у першыя чатыры гады дзейнасці Мухаммеда у Медыне, і нават галоўная яе частка узнікла у першыя васемнаццаць месяцау, ва усякім разе да бітвы пад Бадрам ( 624 г. ).

У гэтай суры ёсць зварот і папрокі да габрэйскай грамадскасці у Медыне, асуджэнне іх нявер"я у новую місію, адначасова шматлікія аналогіі, вельмі скарочаныя расказы аб падзеях, якія апісаны і у Бібліі. Падкрэслена у гэтай суры пастаянства Адкравення, пачынаючы ад Ібрагіма, які падаецца тут таксама як будаўнік святыні Кааба.

Аяты гэтай суры сведчаць пра незалежнасць і арыгінальнасць новай рэлігіі — Ісламу, што праяўляецца, між іншым, у змяненні напрамку, куды паварочваць твар мусульманіну ў час малітвы ( гл. Кыбла ).

Сура гэта мае шматлікія павучанні, наказы і праўныя забароны,

таксама як і іншыя правілы, што устанаўліваюць парадак новага мусульманскага грамадства. Прававыя нормы займаюць значную частку суры. Датычацца яны посту ( гл. Саум ), падарожжа ў святыя месцы ( гл. Хадж ), сямейных адносін, кантрактаў, даўгоў, ліхвярства, забароны піцця віна, азартных гульняў і інш., амаль усе гэтыя тэмы больш падрабязна раскрыты ў іншых сурах. Можна сказаць, што сура аль-Бакара ўтварае як бы сінтэз усяго зместу Кур"ана.

БІТВА ГЕДЫМІНА З КРЫЖАКАМІ Ў 1321, адбылася каля ракі Зяміла. Месца бітвы і сучасная назва ракі пакуль што не ўстаноўлены. Беларуска-літоўскаму войску дапамагалі татары. Бітва апісана ў "Летапісе Рачынскага" і ў "Хроніцы літоўскай і жамойцкай". У гэтым летапісе сказана: "Застаўся вялікі князь Гедымін пасля смерці бацькі свайго Віценя ў Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім і сядзеў на бацькавым троне ў Кярнаве ( першая сталіца Літвы, за 50 км на паўн. захадзе ад Вільні, мястэчка Кярнава ). Не шмат гадоў мог ён панаваць спакойна, бо супроць яго пайшлі немцы, прусы і інфлянты і з вялікім мноствам людзей наступалі на зямлю Жамойцкую, збіраючыся на ёй замацавацца".
"... з прычыны таго паражэння і страты зямлі Жамойцкай ( Гедымін ) надта моцна сумаваў, аднак, на шчасце не ўпаў у адчай... А магістр прускі Каролюс, ад першага шчасця захмялеўшы, другі і трэці раз з вялікім войскам нямецкім хадзіў нішчыць Літву і шмат літоўскіх паветаў, якіх ніхто да гэтага часу не чапаў, — разбурыў і зваяваў. А калі так крыжакам у Літве шанцавала і Жамойцкую зямлю цяжкім ярмом бязлітасна прыдавілі, Гедымін, вялікі князь літоўскі, хоць меў не малое войска, з Літвы, Русі і татараў сабранае ў абозе паміж Юрбаркам і Кунасам, або Коўнам, аднак, зважаючы на магутнасць, шмат разоў засведчаную, нямецкіх узброеных ваякаў, бо ўся рэша Нямецкая крыжакам памагала — чакаў на дапамогу дадатковых сіл. Потым, калі ўсе войскі літоўскія і навагародскія з палачанамі да яго сцягнуліся, Гедымін адчуў дастатковую сілу і накіраваўся далей у зямлю Жамойцкую супроць крыжакоў, якія таксама падрыхтаваліся да сустрэчы. І так Гедымін спыніўся лагерам над ракою Зямілаю, а з другога боку ад Земаў

мілі дзве. Там жамойтау да літоускага войска безупынна прыбывала з навакольных мясцовасцяў і з нямецкага абозу ( перабежчыкі ? ), паведамляючы надзейныя звесткі пра іх арганізацыю і ваенныя намеры".

Са свайго боку гетман нямецкі Генрык наступаў на войскі літоускія, абяцаючы сваім немцам упэўненую перамогу. А калі абодва войскі на адлегласць палёту дзвюх стрэлаў з лука над Зямілаю ракою наблізіліся, адразу ж з вялікім крыкам і імпэтам кінуліся насустрач. Немцы з коп"ямі, выстраліўшы з некалькіх мушкетаў ( якія ў той час былі выдуманы ), на татараў націснулі, а тыя ў сваю чаргу звычайным танцам ( гл. Татарскі танец ) і выгнутым строем быццам кінуліся уцякаць, як гэта было ў звычцы уводзіць працiўніка ў зман, каб наўмысна ламаць строй. І так, калі немцы, павернуўшы, што татары уцякаюць, з вялікай ахвотай паскакалі за імі, рассыпаўшы строй, татары хутка павярнуліся да іх, вельмі густа страляючы з лукаў, псавалі немцаў, а Гедымін зноу з літвою вялікім напорам ударыў на галоўныя сілы нямецкія. І так немцы ўзбраеннем, а літва манеўрам змагаліся коп"ямі, мячамі, стрэламі з абодвух бакоў бітву вялі. Стаяў крык людзей, гром зброі, ржанне коней, гукі трубаў і бубнаў. Бітва доўга працягвалася з роўнай надзеяй перамогі для абодвух бакоў, аж потым жамойць, якой было некалькі тысяч у войску нямецкім, успомніўшы сваю колішнюю свабоду, атрымаўшы аказію скінуць нямецкае ярмо, калі бітва з абодвух бакоў наймацней разгарнулася, усе адзінадушна на немцаў, паноў сваіх, ударылі, а таму, што у сярэдзіне войска нямецкага стаялі, яшчэ у бойцы не стаміліся, нанеслі вялікае паражэнне немцам, якія не спадзяваліся у той час такой раптоўнай перамены.

Разгубіліся немцы адразу, пабачыўшы неспадзяваную здраду, падаліся назад, а Літва, Жамойць, Русь за імі, а татары з бакоў і спераду уцскачам, перагружаным зброяю, на лёгкіх конях заходзячы і з лукаў страляючы, літве немцаў быццам у сець заганялі. І больш іх палегла уцякаючы, чым на полі бітвы, бо тых нецаў, што уцяклі, літва аж да Алшані ( ? ) ракі гнала, б"ючы, забіваючы, колючы, страляючы, топячы і хапаючы так, што на кількана сце міль па дарогах і палях трупаў нямецкіх было поўна. Нават

мужыкі, з лясоў выходзячы, пераймалі немцаў, збівалі з коней з крыкам: "Мушк немца", а тых, што хаваліся па лясах, мужыкі, шукаючы з сабакамі, знаходзілі і білі, а іншых, абадраўшы, на дрэвах вешалі .

"Року 1321. Гедымін з літвою, і жамойцю, і руссю, і татарамі, немцаў нагалаву разбіўшы, бо знішчыў іх у той час тысяч сто дваццаць, магістра і гетмана пазабіваўшы, княжаства Жамойцкае зноў назад адабраў ..."

( Урывак з артыкула Ул.Казбярука "Гедымін у летапісах". "Спадчына", 5.92 ).

БУРАК, а л - Б у р а́ к ( ад араб. барак — бліскавіца ), назва легендарнай жывёлы, якую згодна з традыцыяй прарок Мухаммед выкарыстаў для цудоўнага падарожжа на неба ( ал-Ісра ва-л-Мірадж, гл. Мірадж ). Кур"ан ( сура аль-Ісра, аят 1-ы і сура ан-Наджм, аяты 1 — 18-ы ) нагадваюць пра падарожжа Прарока з Меккі ў Іерусалім і на неба. Істота, якая яму служыла як верхавая жывёла, у Кур"ане дэталёва не апісана. Пазнейшыя каментатары перадаюць, што Бурака прывёў да Мухаммеда архангел Джыбрыл.

Пра Мірадж ёсць шматлікія паданні. Вядома апісанне Мiраджу ( мэраджу ) у Аль-Кітабе. Там даволі падрабязна расказана, як выглядаў ал-Бурак. Згодна з паданнем у Іерусаліме захавалася кольца замацаванае ў скале, да якой быў прывязаны ал-Бурак. Ёсць таксама камень, які называюць "сядло Бурака".

Вядомы кніжныя мініяцюры ў кнігах мусульман-шыітаў, у якіх намаляваны ал-Бурак у выглядзе каня з жаночай галавой, крыламі, прыгожым хвастом накшталт хваста дэкаратыўнай свойскай птушкі паўліна.

ВІЛЕНСКАЯ МЯЧЭЦЬ, была ў прыгарадзе Лукішкі. Мяркуюць, што мячэць заснавана тут у першай палавіне 16 ст. Перад першай сусветнай вайной віленскія татары сабралі грошы на будаўніцтва цаглянай мячэці, быў складзены праект, аўтар якога — прафесар архітэктуры Стафан Крычынскі, выкладчык Інстытута грамадзянскіх інжынераў у Санкт-Пецярбурзе. У сувязі з бальшавіцкім пераваротам грошы, якія захоўваліся на ашчаднай кніжцы, прапалі.

У 1918 — 1939 гадах сціплая драўляная Віленская мячэць бы-

ла галоўнай прадстаўнічай святыняй у Рэчы Паспалітай, бо ў Вільні знаходзілася праўленне муфтэяту. Каля мячэці мізар, даўно закрыты для пахавання. У Віленскай мячэці адбыўся малебен ( 20.6.1930 ) за Польскую Айчыну. Прысутнічалі Прэзідэнт Рэчы Паспалітай Ігнат Масціцкі і віленскі ваявода Уладыслаў Рачкевіч. Богаслужэннем кіраваў імам Ібрагім Смайкевіч.

Віленская мячэць ацалела ў час другой сусветнай вайны. Аднак савецкая ўлада не пашкадавала мусульманскую святыню — помнік архітэктуры, таксама як і мізар. У пачатку 50-х гадоў мячэць і мізар былі знішчаны. На гэтым месцы пабудаваны новыя будынкі.

ВУДУ, рытуальнае абмыванне перад намазам. У Кур"ане ( сура аль-Маіда, аят 6-ы ) сказана, што вернік перад намазам павінен мыць рукі да локцяў, твар, а затым працерці рукамі вільготнымі валасы на галаве, абмыць ногі да костак ( шчыкалатак). У выпадку, калі мусульманін апынуўся ў пустыні, сухім стэпе, а вады не аказалася, то магчыма сімвалічнае абмыванне перад намазам сухім пяском ( гл. Тайаммум ).

Увядзенне рытуалу вуду належыць, відавочна, Мухаммеду. Вуду з"яўляецца ўступам і найважнейшай састаўной часткай намазу. На прадпрыемствах і ва установах у мусульманскіх краінах прадугледжана, каб мусульманін мог з выгодай выканаць абмыванне.

Пры намеры мусульманіна ісці памаліцца ў мячэць ці схадзіць на мізар, трэба чыніць абмыванне ўсяго цела ( гл. Гусл )

ЕЖА, адна з найважнейшых патрэб чалавека. Згодна з мусульманскай рэлігіяй вылучаюць тры катэгорыі ежы: халал — дазволеная для мусульманіна, макрух — не зусім падыходзячая, але не грахоўная, харам — забароненая. Кожная страва павінна быць прыгатавана ў чысціні, перад ядой мусульманін мые рукі, моліцца, пасля яды мые рукі. У час посту ( гл. Саўм ) ад узыходу да заходу сонца мусульмане нічога не ядуць і нічога не п"юць.

Набор прадуктаў і прыгатаванне страў у розных мусульман-

скіх народаў розныя. Яны залежаць ад прыродных умоў і звычаяў, якія склаліся на працягу стагоддзяў.

Ежа беларускіх татар складаецца з раслінных і жывёльных прадуктаў. Стравы, прыгатаваныя з раслін, як традыцыйныя, так і экзатычныя дазваляецца спажываць у любы час, акрамя посту. З прыняццем мусульманскай веры татарамі не ўсе віды жывёльных прадуктаў дазволены. Забаронена мяса драпежных птушак і драпежных звяроў, свініна, рыба без луск і ( мянтуз, вугор, вюн і інш. ). Каніна, якая ўжывалася вандроўнымі жывелаводамі, згодна з мусульманскімі нормамі лічыцца макрух — не грахоўнай, але непажаданай стравай ( крымскія татары, беларускія татары і азербайджанцы конскае мяса не ўжываюць ).

Мясныя стравы, якія гатуюць татары, звычайна тлустыя і вострыя ад прыпраў. У паволжскіх, крымскіх і беларускіх татараў, а тасама ў азербайджанцаў часта ўжываецца шурба ( шурпа ) — суп. Гатуецца з тлустым мясам, кладзецца перац і заліваецца смятанай, а ў крымскіх татараў — катыкам ( кіслым авечым малаком ). Дадаецца локшына ( лапша, макароны ), розная гароднiна альбо толькі адзін від і носіць назву гэтай гароднiны.

Да агульнататарскіх мясных страў належыць пілаў ( плоў ), г.зн. тлустая бараніна, якая запякаецца з рысам і разынкамі з дамешкам пахучых каранёў. Пашыраны таксама шашлык або кебаб з бараніны, які смажаць на прэнціку ( шомпал ) на жаратках. Надсечанае мяса ( як для біфштэксу ) і засмажанае на шомпале як шашлык, называюць кюфта ці тарб.

Прыправай для мясных страў служыць свежая гародніна з перцам, цыбуляй, парашком з карэнішча аеру, воцатам. Ужываюцца кансерваваныя баклажаны, гуркі, цыбуля, буракі, капуста, зялёны перац, маркоўка і падаецца як салат ( мяшанка ) з пучком зялёнай пятрушкі зверху.

Да мясных страў, якія ў татараў лічацца найсмачнейшымі, адносяцца бялюш і калдумы ( калдуны ). Бялюш рыхтуюць з кавалачкаў сырой тлустай бараніны або гусінага мяса ( у беларускіх татараў ), прыпраўленых цыбуляй, перцам і соллю, загорнутым у дражджавым цесце, папярэдне раскачаным як для локшыны, загорнутым у рулон ( як рулет ), затым закручаным спіраллю і запечаным у печы ці духоўцы на вялікай патэльні.

У святочныя дні, ці калі завітаюць госці у татарскіх сем"ях гатуюць калдумы. Сырое тлустае мяса сякуць нажамі ( з машынкі-мясарубкі фарш не такі смачны — выціскаецца сок з мяса ) дадаецца цыбуля, перац і соль. Рыхтуюць цеста з пшанічнай мукі на вадзе і яйках, кавалачкі цеста раскачваецца кружкамі дыяметрам да 8 см, на якое кладуць дэсертную лыжку фаршу і загортваюць. Месца склейкі цеста аздабляюць зубчыкам. Вараць у невялікай колькасці вады, падаюць на стол гарачымі.

У паволжскіх і сібірскіх татарау калдумы па памеру меншыя, называюць іх пяльменямі. У крымскіх татар калдумы больш пляскатыя ( менш фаршу ), смажаныя, называюць чабурэкамі.

У паволжскіх татарау рыхтуюць смачную страву — пермячы. З цеста раскачваецца тонкі дыск па памеру патэльні, кладзецца фарш як для калдумоу, затым накрываецца зноу тонка раскачаным цестам і смажыцца на патэльні у печы ці духоуцы.

Даспадобы і салодкія стравы. Найбольш папулярная джайма. Гэта вельмі тонка раскачанае цеста, засмажанае на масле ці бараннім тлушчы і насычанае пасля гэтага мёдам. Гатуюць таксама і халвы з мукі з дамешкай масла, мёду і арэхау. Ласункам лічыцца пячэнне з мёдам, арэхамі, варэннем і цукатамі.

З напіткау у мусульман найлепшым лічыцца вада. Ужываюць таксама сокі з ягад і садавіны, ваду з мёдам ( сыта ). Па-татарску мёд называюць бал ( гасцей частавалі мёдам — рабілі бал ). У спякоту у Крыме і Кыргызстане пілі югурт і кумыс. З напіткау, якія прававерным піць не раіцца, вядомы буза ( гатуюць з прасяной мукі ) і піва.

На дэсерт ідзе садавіна і гародніна у свежым, сушаным і кансерваваным выглядзе. Папулярны напітак — чорная кава, а таксама чай, нярэдка з дамешкай масла, солі і перцу у стэпавых татарау.

Сучасная татарская кухня стала больш разнастайнай стравамі, рэцэпты запазычаны у славян і літоуцау. Некаторыя татарскія стравы запазычылі суседнія народы ( напрыклад, кефір, пельмені, каубасу і інш. ).

МЕДЫНА, свяшчэнны горад мусульман. У ім з 622 да 632 жыу і дзейнічау прарок Мухаммед, калі па волі Аллага ён са сваімі паплечнікамі -мухаджырамі перасяліуся сюды з Меккі ( гл.

Хіджра ), знайшоў падтрымку ў некаторых жыхароў горада — ансараў. Тут Мухаммед з мухаджыраў і ансараў стварыў мусульманскую абшчыну, прыняў пасланыя Аллагам 24 суры Кур"ана. У Медыне была заснавана мусульманская дзяржава. У Медыне прарок Мухаммед памёр і тут ён пахаваны. Пры здзяйсненні хаджу мусульманін наведвае Мекку і Медыну.

Горад знаходзіцца ў заходняй частцы Саудаўскай Аравіі ў правінцыі Хіджас, за 212 км на ўсход ад порта Янба на Чырвоным моры. 198 тыс. жыхароў ( 1979 г. ). Выраб сувеніраў, установы для абслугоўвання пілігрымаў і турыстаў. Мусульманскі універсітэт, вышэйшая педагагічная школа.

Горад Медына вядомы пад назвамі а л ь - М а д ы н а, М а д ы н а т а л ь - М а н а ў в а р а, у старажытнасці яго называлі Я т р ы б, Я с р ы б. Час заснавання горада невядомы.

Размешчаны ў міжгорным паглыбленні. На захад, да Чырвонага мора паверхня рэзка паніжаецца, на поўдзень паверхня роўная. Горад абкружоўваюць горы Джабаль Ухуд, Джабаль Тгаур, Джабаль Аір і Джабар Саля. З гор сцякае мноства ручаеў, якія зліваюцца далей на захадзе ад горада ў мясцовасці Загхаба, адкуль прабіваюцца і ўпадаюць у Чырвонае мора. Гэта адна з багатых на ваду мясцін была здаўна заселена земляробамі.

Непадалёк ад Медыны знаходзіцца патухлы вулкан, які апошні раз вывяргаўся ў 1266 г.

Медына была сталіцай мусульманскай дзяржавы да 661 г., затым халіф Муавія (правіў у 661 — 680 гг. ) абвясціў сталіцай Дамаск. Горад паступова прыходзіў у заняпад. У час грамадзянскіх войнаў быў разбураны. У 1804 г. вахабіты авалодалі горадам, а ў 1812 г. Медына аказалася ў руках турэцка-егіпецкіх войск. У час першай сусветнай вайны Медынай правіў шэрыф Меккі — Гусайн. У 1924 г. пасля 15-месячнай асады горадам авалодаў Ібн Сауд і ўключыў яе ў дзяржаву Хіджаз і Неджд ( з 1932 г. каралеўства Саудаўская Аравія).

Уласна горад аточаны мурам, у якім спачатку былі 4, цяпер 8 брамаў. Мураваныя сцены злучаюць горад з цытадэллю, збудаванай у час праўлення султана Сюлеймана I Пышлівага ў 1532 г. Самая старая частка горада цяпер утварае усходнюю ускраіну, паміж Вялікай Мячэццю і Брамай Бакі ( Баб аль-Бакі ). Найбольш

вядомая Мячэць Прарока ( даўжыня 120 м, шырыня 60 м ), дзе пахаваны Прарок, халіфы Абу Бакр і Умар ібн аль-Хаттаб, жонка Прарока — Айша.

ПЕРШЫ ЎСЯПОЛЬСКІ МУСУЛЬМАНСКІ КАНГРЭС. Пачаўся ў Вільні 31.I.1938. У гэты ж дзень удзельнікі кангрэсу наведалі могілкі Росы, каб ушанаваць памяць Юзафа Пілсудскага. Пасля палудня пачалася праца кангрэса ў зале управлення школьнай акругі. Прыехала 38 дэлегатаў і група запрошаных гасцей на чале з віленскім ваяводам Людвікам Бацяньскім. Універсітэт імя Стафана Баторыя прадстаўляў праф. Мюлер. Агульнае кіраўніцтва, па прапанове муфтэя, даручылі Альгерду Крычыньскаму.

Прамаўлялі муфтэй доктар Якуб Шынкевіч і ваявода Бацяньскі. Абодва прамоўцы падкрэслілі выдатны факт у гісторыі польскіх татараў — прызнанне дзяржаўнымі ўладамі іх рэлігійнага згуртавання. Віленскі ваявода адзначыў пры гэтым, што прайшло больш за 500 год, як татары звязаны з Польшчай. Яго прамова была добра прынята дэлегатамі кангрэса, якія праспявалі дзяржаўны гімн.

У другой частцы кангрэса выбралі членаў мусульманскай калегіі. Было 17 кандыдатаў з розных джаміятаў ( парафій ), у тым ліку ўсе члены арганізацыйнага камітэта, якія выконвалі ў падрыхтоўчы перыяд некаторыя функцыі будучай калегіі. У выніку тайнага галасавання у Найвышэйшую Мусульманскую Калегію былі выбраны імамы Алі Варановіч і Аляксандр Крыніцкі і як свецкія асобы Альгерд Крычыньскі і былы заступнік муфтэя Якуб Рамановіч. Кандыдатамі-заступнікамі членаў Найвышэйшай Калегіі былі выбраны імамы Ях"я Міськевіч і Луцыян Мухля, а таксама свецкія асобы — Канстанцін Мурза-Мурзіч і Стафан-Мустафа Рамановіч.

Пасля выбараў з"езд завяршыўся выступленнем муфтэя і яго былога заступніка Рамановіча і сакратара муфтэята Стафана Туган-Бараноўскага.

На другі дзень пасяджэння кангрэса, які быў адначасова агульнапольскай сустрэчай дэлегатаў Культурна-асветнага згуртавання татараў Польшчы, быў зроблены агляд дасягненняў грамадска-культурнай працы. Кангрэс завяршыўся мусульманскім банкетам.

## БЕЛАРУСКА-МУСУЛЬМАНСКІЯ ІМІҐРАНТЫ Ў ЗАДЗІНОЧАНЫХ ГАСПАДАРСТВАХ

Я знаю тых, каторых галоўны асяродак на Брукліне ў Нью Ёрку. Праўдападобна, апрача гэтых, іншых нямашака. Прыехалі да Задзіночаных Гаспадарстваў у 1900-1914 гадох із розных земляў свайго расьсяленьня ў Беларусі, з выняткам хіба павету Імсьціслаўскага, скуль я ня сустрэў. Пачалі жыць на Брукліне ў Нью Ёрку, дзе й цяперка бальшыня іх жывець. З часам часткава перасяліліся да суседніх стэйтаў — да Нью Джэрсі, Конэктыкут, Массачузэт.

Была гэта заработкавая эміграца, паходзячая зь бедных пластоў. Расія мала рупілася праз (пра) асьвету свайго собскага народу, а што да народаў заваяваных, да каторых належаць Беларусы, то рупнасьць расійскае ўлады йшла ў кірунку паніжэньня іх культурнай роўні. Дык былі на толькі бедныя, але й цемныя. У шчасьлівай і ўшчасьліўляючай Амэрыццы жывуць у дастатку. Пакаленьне тут народжанае пакончыла сярэднюю школу, 20-30-ёх чалавекаў скончылі каледж. Занятыя галоўна як работнікі ў розных галінах прамыслу. Ё крыху ралейных гаспадароў (фармараў) і колькі палічнікаў. З тых, што скончылі каледж, ё двух вучыцялёў, 1 інжынер, 1 адвакат, 3-4-х лічбаздаўцаў (экаунтэнтс), колькі паштовых урадпікаў і інш.

Народжаныя ў Беларусі гукаюць добрай моваю беларускай, народжаныя ўв Амэрыццы таксама знаюць беларускую мову, але ў гаворцы памагаюць сабе словамі, узятымі з мовы анґельскае, каторую знаюць ужо ляпей за беларускую. Гэтак ё наагул у ўсёй іміграцы беларускай у Задз. Гас. Ам.

Як наагул беларускія мусульмане, таксама паходзячыя зь іх іміґранты ў З. Г. маюць прозьвішчы беларускія, пры гэтым ё карэнь і канчатак беларускі, альбо толькі канчатак, а каранём ё якоесь імя арабска-мусульманскае. Іміґранты, каб палягчыць вымову сваіх прозьвішчаў Амэрыканцам, у шмат прыпадках свае прозьвішчы замэрыканізавалі, так што маюць дзьве хормы прозьвішча — беларускую й амэрыканскую; першую хорму ўжываюць паміжсобку, другую — урадова і з усімі іншымі. Прывяду колькі прозьвішчаў: Стів (Сьцяпан)[4]) Лебедзь, Адам Муха, Джэмс (Якуб) Сафарэвіч, Сэм Рэфэль (Сямён Рафаловіч), Бэн Джэкобс (Бэнямін Якубоўскі).

У 1907 г. была закладзена на Брукліне беларуска-мусульманская парахвія American Mohammedan Society, каторая цяпер мае 700 сяброў, ня лічачы дзяцей. Парахвія мае мэчыць у доме нр. 104 Повэр вуліцы на Брукліне із заляю на зборкі і гасподаю імаму. Апрача таго, мае могільнік. Да парахвіі належаць так-

сама беларускія мусульмане з вышменаваных іншых мясцовасьцяў. Па сьмерці каторага із сваіх сяброў парахвія займаецца яго паховам на сваім могільніку, выдаець памогі сіротам па ўмерлым і інш. (Некаторыя беларускія мусульмане не належаць да парахвіі, ня хочучы плаціць ладных, з прычыны малога ліку сяброў, складак). На чале парахвіі стаіць комітэт із двананцацёх сяброў, каторыя з паміж сябе абіраюць старшыню. Цяпер старшынёю ё менаваны Бэн'ямін Якубоўскі, ён радзіўся ў Амэрыццы.

Вернікі з паміж сябе выбіраюць імама (малну). Цяпер ёсьць імамам С. Рафаловіч, ён ня мае багаслоўскай асьветы. Гэтак ё і ў Беларусі ў малых мусульманскіх грудкох. У парахвіях большых імамы ў Беларусі маюць багаслоўскую асьвету, а на чале мусульман у заходняй Беларусі стаяў перад апошняй вайною муфты Шынкевіч, доктар багаслоўя. Шынкевіча вельмі паважае бруклінская мусульманская коленя. Між іншага, у канцыляры ейнай арганізацы вісіць ягоны патрэт побач із патрэтам Лінкольна.

Моляцца ў мове арабскай, каторай ніхто з іміґрантаў, ані імам не разумее. У 1947 г. быў выданы ў Ню Ёрку маліцьвенік Fundamental of Islam із побачнымі (паралельнымі) тэкстамі арабскім і анґельскім (тэкст анґельскі надрукаваны дзеля зразуменьня тэксту арабскага). У 1950 г. былі арганізаваныя рэліґійныя курсы дзеля навукі асноваў ісламу і зразуменьня асобных словаў і проказяў з малітваў арабскіх. На гэных курсах вучылася галоўна моладзеж.

Апрача царкоўнай арганізацы, беларуска-амэрыканскія мусульмане маюць яшчэ арганізацу сьвецкую — Амэрыканскія Прыяцелі Задзіночаных Мусульман (United Mohammedan American Friends, Inc.).

На другой сьветнай вайне было каля 114 беларуска-амэрыканскіх мусульман. Сярод іх было колькі ахвіцэраў. Усі зьвярнуліся жывыя, раненых і хворых было каля 25. Некаторыя адзначыліся на вайне, прыкладам Язэп Яновіч адзержыў каля 10-ёх мэдаляў, паміж іх амэрыканскую срэбную зорку.

Апісаныя мусульмане жывуць апрычонай групаю беларускай, не мяшаючыся зь іншымі мусульманмі амэрыканскімі, але ў дальшым а прыпадкавым контакце яны ёсьцека з цэлым шырокім сьветам мусульманскім. Гэтак, рэліґійныя курсы вёў у іх Эгіпцянін, студэнт інжынерыі ў Ню Ёрку. Аўтар гэтага артыкулу адноўчы даведаўся на менаваныя курсы. Тады вядзеньню курсаў прыслухаўся місыянар із Пакістану, што ўрадова падарожжаваў дзеля дасьледаваньня стану ісламу ў розных краёх. Прышло таксама двух афрыканскіх нэграў.

Мусульмане іншых нацыянальнасьцяў дзівяцца зь іхных беларускіх сувернікаў, што яны мусульмане, хоць людзі белае расы, і што вытрывалі ў ісламе, дарма што даўгія вякі жывуць сярод хрысьцян.

Ст. Я.

# БЕЛАРУСКА-КРЫМСКАТАТАРСКІ СЛОЎНІК

## 1100 слоў і сказаў ад дзядзькі Ісмаіла Меметава

| Беларускае слова | Крымскататарскае слова |
|---|---|
| магчы | яна блерим ( этерим ) |
| магчымасць | чаре |
| майстар | уста |
| мала | аз |
| малады | яш |
| малако | сють |
| маленькі | юфакъ |
| малы | кичкене |
| мамка | сють-ана |
| мастак | ресам ( рессам ) |
| мастацкі ( кіраўнік ) | эдебий ел башчы |
| мастацтва | санаат |
| матка ( маці ) | ана ( анам ) |
| машына | машына |
| менш, крышку менш | аз ( азчык ) |
| мера | ольчик |
| мераць | ольчемек |
| месца | ер |
| месяц ( частка года, планета ) | ай |
| метад | усул |
| мех | чувал |
| мець | олмакъ ( бар ) |
| мёд | бал |
| між | ара |
| між ( сярод ) | олнарых ичинде, олнарых арасында |
| міжнародны | халкъ ара |
| мілы | гузелим, джаным |
| мільен | миллион |
| міністр | министр |
| міністэрства | министрлик |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| мінулы | кечен ( кечкен ) |
| мір | дунья |
| мірны | маабет |
| многа | чокъ |
| мо ( пабочнае слова ) | япар ( япа блир ) |
| мова | тиль, созь |
| можна | мумкунъ |
| мой | мени, меним |
| моладзь | яшлар, яшлыкъ |
| мамант | дев ( мамонт ) |
| мора | денъиз |
| мост | копур |
| моцна | къуветнен, кеекин |
| муж | акъайым |
| мужчына | акъай |
| мужык | акъай ( койлю ) |
| мука | ун |
| мусіць ( дзеяслоу, пабочнае слова ) | борчлы |
| муха | чбин |
| мэта | макъсад |
| мядзведзь | аюв |
| мяжа | сынъыр |
| мяса | эт |
| мясцовы | ерли |
| мяшок | чувал |
| на | на канцы слова дадаецца "де", напрыклад, на стале — устюнде |
| риват | биле |
| навука | илим |
| навуковы | илими, илимли |
| нага | аякъ |
| над | на канцы дадаецца устюнде, напрыклад, над ім — оларнынъ устюнде; над табой — сенинъ устюнде |
| назад | арткъа |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| найбольш | чокътан-чокъ, эписинден-чокъ |
| намеснік | муавин, ярдымджы |
| напісаць | язмакъ |
| напіцца | ичмек |
| напрыклад | меселя |
| народ | халкъ |
| народны | халкъны ( джемаатны ) |
| нарэшце | ахыр-сонъы |
| насельніцтва | халкъ |
| насіць | ташымакъ |
| настаўнік | оджа |
| нацыянальны | милли |
| начаваць | геджелемек, гедже ятмакъ |
| начальнік | баш, мудюр, шеф |
| наш | бизим, бизимки |
| нашто | неичунь |
| не | ек |
| неба | кок |
| невялікі | юфакъча |
| недзе | къайда, къайда экен |
| нейкі | насыл, насыл экен |
| некалькі | бир къач дане |
| некаторы | бир takым |
| нельга | олмаз, мумкунь дегиль |
| немец | алман |
| несці | кетирмек |
| нехта | блинмеген |
| нешта ( займеннік ) | бир шейлер |
| нешта здарылася | бир шейлер олды |
| неяк | ойле-ки |
| нідзе | ич бир ерде |
| ніколі | ич бир вакъыт |
| ніхто | кимсе ( ніхто не ведае — бимсе билмей ) |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| нішто | ич бир шей |
| ніякі | ич бир тюрлю |
| новы | янъы |
| ножка | аякъ, аячыкъ |
| нос | бурун |
| ноч | гедже |
| ну | айды |
| нумар | сыра, номер |
| нядауна | якъында |
| няма | екъ |
| няхай | барсын |

Адклад не йдзе у лад.
Бугун япыланджакъ ишни ярынгъа къалдырма.

Хто не йдзе, той не спатыкаецца.
Бир иш япмагъан киши янъылмаз.

Дзе сава і сыч, там носа не тыч.
Санъа тиймеген суальге, бурунынъы сокъма.

Сірочыя слёзы дарма не мінуцца.
Сычаннынъ коз-яшлары мышыкънынъ козунденде акъар.

Балі ды гулі у лапці абулі.
Ичкен ве кезген адам — якъшылыкъ кормез.

Лепш у сваей хатцы, як у чужым палацы.
Озюнъни эвинъ, падишаннынъ сарайындан якъшыдыр.

У гасцях добра, але дома лепш.
Мусафир ликте якъшы ама, эвде гузель.

З кім спазнаешся, такім станешся.
Достынъ ким олгъаныны айтсанъ, мен сени ким олгъаны айтырым.

---

Беларускія прыказкі і прымаукі для 3-га і 4-га нумара "Байрама" запазычаны з кнігі З.Ф. Санько "Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем", Мн., 1991.

## У ДОБРЫ ШЛЯХ!

Здзейснілася тое, пра што мы яшчэ нядаўна маглі толькі марыць. Адчыніліся дзверы мусульманскіх школак у Менску і ў Іўі. На першыя заняткі ў памяшканні сярэдняй школы № 65, дзе дырэктарам працуе прэзідэнт Згуртавання "Аль-Кітаб" А.Я.Шабановіч, 15 лістапада, ў нядзелю, а 10-й гадзіне сабралася каля дваццаці хлопчыкаў і дзяўчынак. З прывітальным словам выступілі самы старэйшы сябра Згуртавання, настаўнік крымскататарскай мовы, ветэран Вялікай Айчыннай вайны падпалкоўнік Ісмаіл Меметаў і прэзідэнт А.Шабановіч, якія пажадалі вялікіх поспехаў вучням і вялікай радасці бацькам навучэнцаў.

На першым уроку вывучылі дзве першыя літары — аліф і бе. Заняткі ў школе будуць раз на тыдзень па 3 — 4 гадзіны.

На высокім эмацыянальным уздыме прайшлі заняткі і ў Іўі ( гл. асобную нататку ).

Цяпер ужо мала хто памятае той далёкі час, калі існавалі ўмовы для развіцця культуры беларускіх татар і ніхто не перашкаджаў ( таксама як і не вельмі дапамагаў ) вывучаць арабскую граматы і Іслам. Раней лічылася вялікім грахом, калі бацькі не пасылалі сваіх дзяцей вучыцца ў спецыяльных школах чытаць арабскія тэксты і пісаць арабскай графікай. Гэтыя школы існавалі з першых гадоў татарскага асадніцтва на землях Беларуска-Літоўскай дзяржавы ( Вялікага княства Літоўскага ). Аб такіх школках згадвае яшчэ ў 1558 годзе аўтар ліста да турэцкага султана Сюлеймана I Пышлівага. "Пры вялікіх мячэцях, — піша аўтар ліста, — звычайна трымалі імамаў з Крыма і Арды, аплачваючы іх уласнымі сіламі, у іх жа вучацца нашы дзеці; з іх некаторыя рыхтуюцца да духоўнага прызвання. Калі б не вялікія адлегласці, можна не сумнявацца, што асманскія падзішахі прыслалі б да нас сваіх улемаў ( вучоных ), якія б трымалі нашу веру ў чысціні і вялі б нас сваёй навукай па правільнаму шляху".

У час праўлення Стэфана Баторыя здольных татарскіх хлопчыкаў пасылалі для далейшага навучання ў арабскія школы.

Пра гэта паведамляе пасланнік рымскага папы іезуіт Пасевіна у 1579 і 1581 гадах у лісце аб становішчы Віленскай парафіі.

У наступныя гады школы па вывучэнні Кур"ана ствараліся у кожным населеным пункце, дзе жыла значная колькасць татарау. Навучаннем дзяцей займауся або сам кіраунік джаміяту — імам, або яго памочнік — мязім, або спецыяльна прызначаная для гэтага асоба. Такога настауніка татары называлі годжыем. Гэта слова паходзіць ад турэцкага — ходжа — пан, настаунік. Вучылі у асноуным мужчыны, але былі і жанчыны ( іх звалі годжыні ). У Ляхавічах перад першай сусветнай вайной вучыла чытаць Кур"ан "баба Гасцілаука", удава імама Ібрагіма Якубоускага, якая была родам з вёскі Гасцілавічы ( адсюль і яе прозвішча ). Каля Ліды, у татарскай вёсцы Сандыкаушчына, дзяцей вучыла годжыня Соф"я Крыніцкая. У Смілавічах годжынямі былі дочкі імама Ібрагіма Хасяневіча — Зоня (Зюгра) і Ева (Хава). Перад другой сусветнай вайной у Навагрудку свайму мужу дапамагала вучыць татарскіх дзяцей Эміля Асановіч.

У вялікіх татарскіх паселішчах мусульманскія школы знаходзіліся у спецыяльных дамах. У перадваеннай Польшчы пры кожнай мячэці быу парафіяльны дом. У Іуі будынак для мусульманскай школы быу пабудаваны у 1922 годзе за грошы татарау-эмігрантау, якія выехалі да першай сусветнай вайны у ЗША і засталіся там. Але большасць мусульманскіх школак знаходзіліся ва уласных дамах настаунікау-годжау.

( Апісанне работы мусульманскіх школак у перадваенныя гады гл. у наступным нумары "Байрама" ).

## ВЫВУЧАЮЦЬ АРАБСКУЮ ГРАМАТУ

Дзень 15 лістапада 1992 года татарская школьная моладзь гарадскога пасёлка Іуе запамятае надоуга. Тут на кватэры добрай мусульманкі Фацімы Шабановіч сабралася многа татарскіх хопчыкау і дзяучынак, каб спаткацца і пагаварыць з прадстаунікамі Згуртавання татарау-мусульман "Аль-Кітаб" і студэнтау-арабау. З вялікай увагай дзеці слухалі выступ-

ленне прадстаўніка праўлення Згуртавання "Аль-Кітаб" Ісмаіла Александровіча, старшыні мусульманскай абшчыны ў Іўі Мустафы Радкевіча і нашых братоў-адзінаверцаў Мухаммада і Шуайба — настаўнікаў. Старэйшыя дзядзькі прачыталі першую суру з Кур"ана.

Цяпер заняткі рэгулярна праводзяцца ў Іўеўскай сярэдняй школе ў суботу з II гадзін па чатыры урокі. У два класы прыходзіць больш за 40 дзяцей, а настаўнікі-арабы прыязджаюць з Менска. Дзеці слухаюць настаўнікаў, старанна рыхтуюцца да заняткаў. Прыгожа пішуць арабскія літары, склады, вымаўляюць першыя словы. Цешыць гэта вучоба бацькоў -мусульман, мусульманскую абшчыну. Думаю, што і настаўнікі задаволены, што вельмі далёка ад арабскіх краін дзеці татар пачалі вывучаць арабскую мову, каб навучыцца чытаць і разумець святую кнігу — Кур"ан. Вялікая пашана бацькам гэтых студэнтаў-настаўнікаў, якія выгадавалі сваіх сыноў свядомымі мусульманамі.

Згуртаванне "Аль-Кітаб" выказвае шчырую падзяку дырэкцыі Іўеўскай сярэдняй школы за тое, што яна дала месца для заняткаў татарскім дзецям. Гэта сведчыць аб тым, што Іўе ўжо са старадаўніх часоў было цэнтрам асветы на Беларусі, і гэта добрая традыцыя высокага асветніцтва жыве і цяпер.

Татарская грамадскасць спадзяецца, што школы арабскай граматы у Менску і Іўі — гэта толькі першыя ластаўкі. Спадзяемся, што цікавасць да навучання дзяцей Ісламу будзе абуджацца і ў Навагрудку, Клецку, Слоніме, Смілавічах і ў іншых гарадах і мястэчках.

## ДОБРАЯ СЯБРОЎСКАЯ ПАРАДА

У Менску на занятках па крымскататарскай мове, якія праводзіць Ісмаіл Меметаў-эфендзі, завітаў наш даўні і добры сябар — Алі Селяметаў-эфендзі. Ён ухваліў тое, што у нас робіцца, прачытаў свае вершы. Маладым і старэйшым параіў чытаць і завучваць на памяць цудоўныя крымскататарскія вершы.

З ЖЫЦЦЯ ТАЦЦЯНЫ МУСТАФАЎНЫ НЕСЦЯРОВІЧ

Нарадзілася я ў Менску ў 1909 годзе. Метрыка выпісана ў саборнай мячэці, што стаяла на Вялікай Татарскай вуліцы. Маці мая Елізавета Мацвееўна з Мількамановічаў, бацька Мустафа Бекіравіч Якубоўскі. Пазнаёміліся і пабраліся мае бацькі ў Вільні, калі бацька служыў там афіцэрам. Маладая сям"я пасялілася ў Менску, куды бацька атрымаў перавод. А жылі яны у майго дзеда Бекіра на Малой Татарскай вуліцы ў доме № 45. У дзядулі Бекіра былі тры сыны ( усе былі вайскоўцамі, а старэйшы дaслужыўся да звання палкоўнік ) і дачка. Маці мая была гінеколагам, добра зарабляла, карысталася вялікім аўтарытэтам. Займалася і грамадскімі справамі ( тады усе адукаваныя мусульмане былі грамадскімі дзеячамі ).

За матчын пасаг ( яна прадала камяніцу у Вільні ) і за бацькавы грошы яны купілі зямлю недзе на Гродзеншчыне ( магчыма, каля мястэчка Дзямідаўшчына, цяпер у Кобрынскім раёне Брэсцкай вобласці ). У нас была вялікая сям"я — 7 дзяцей, я была чацвёртай. Бацька памёр у 1926 годзе пасля аперацыі на страўніку.

У 1937 годзе я стала жонкай Несцяровіча Леаніда Іванавіча і жыла ў доме бацькоў на Малой Татарскай вуліцы. Пасля вызвалення Менска ад акупантаў у 1944 годзе маці і мой дзядзя былі арыштаваны, маці памерла у вязніцы з голаду у Ветцы Гомельскай вобласці. Дом наш на Малой Татарскай быў канфіскаваны. Быў сасланы з сям"ёй і мой брат Барыс.

У час Вялікай Айчыннай вайны я і мой муж былі сувязнымі з партызанскім атрадам імя Громава 64-й партызанскай брыгады імя Чкалава. Пасля вайны я і муж працавалі связістамі. Выгадавалі двух дачок — Алену ( з 1938 г., па мужу Лісіцкая ) і Валянціну ( з 1947 г., па мужу Бернатовіч ). А я яшчэ, дзякуй Аллагу, жыву — дачка афіцэра царскай арміі, двараніна, дачка доктаркі, бязвінна загубленай у вязніцы, удзельніца Вялікай Айчыннай вайны, савецкая служачая, пенсіянерка.

## ЦУДАМ ЗАСТАЎСЯ ЖЫВЫМ І НА ВОЛІ

У маіх бацькоў была даволі вялікая сям"я. Маці мая Фаціма Сюлейманаўна — дачка Зюгры з Карыцкіх, бацька — Амурат, сын Евы і Рафаіла. Нарадзіўся бацька ў Смілавічах у 1894 годзе. Калі яму споўнілася 11 гадоў, яго ўзяў багаты і добры татарын у Казань. Ён браў дзяцей з бедных татарскіх сямей, якім даваў прытулак і ежу, днём жа вучыліся ў мусульманскім вучылішчы — медрэсе. Там дзеці вывучалі Іслам, арабскую і татарскую мову, іншыя прадметы. Калі ж у іх добрага гаспадара — купца і пекара была пільная работа, то яму дапамагалі выхаванцы — прадавалі з латкоў свежыя булачкі.

Вярнуўся бацька з Казані ўжо добра навучаным па мусульманскай веры. Тыя, хто чулі яго малады голас, казалі што ён вельмі хораша пеў Кур"ан.

Ажаніўся бацька, нарадзіліся дзеці: Сюлейман, Якуб, Ева, Мяр"ема, Адам ( гэта я ) і Мустафа, які памёр у пяцігадовым ўзросце. Жылі мы бедна, як і многія ў той час. Мячэць зачынілі яшчэ да вайны. Многіх нашых суседзяў арыштавалі, пасадзілі ў турму, саслалі ў Сібір.

Яшчэ горш стала, як пачалася вайна і прыйшлі немцы. Старэйшы брат ваяваў на фронце, а малодшага ў 17-гадовым узросце, як толькі ў 1944 годзе вызвалілі нас ад немцаў, мабілізавалі. Ад холаду і голаду Якуб у войску захварэў. Прыйшла тэлеграма, каб прыехаў бацька развітацца з сынам. Бацька ж у гэты час быў у вязніцы. Трымалі яго там і дапытвалі большчым год, але віны яго перад савецкай уладай не знайшлі і адпусцілі дамоў. Паехала да брата сястра, але недзе каля Смаленска яе затрымалі і адправілі дамоў: тым, хто жыў на акупаванай тэрыторыі, паездка ў глыбокую Расію была забаронена. Так і памёр Якуб на чужыне. Прыйшла страшная вестка, што загінуў на фронце і Сюлейман. Колькі нагаравалася наша маці!

Вярнуўшыся дамоў, бацька яшчэ доўга працаваў. Памёр ва ўзросце 88 год.

Не раз ён гаварыў сваім хатнім: "Цудам застаўся жывы, маліўся. Аллаг дараваў мне жыццё і волю".

На Смілавіцкім мізары пахаваны мой брат Мустафа, бацька

і маці. Пастаўлены на мізары і два камяні ў памяць загінуўшых Сюлеймана і Якуба. Так хацелі мае бацькі. Пахаваны ж яны ў чужой зямельцы.

## НАГІМА ГАЛЕЕВА — САЛІСТКА БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА АКАДЭМІЧНАГА ВЯЛІКАГА ТЭАТРА ОПЕРЫ І БАЛЕТА

На Беларусі жыве невялікая колькасць татараў, якія працуюць у розных галінах матэрыяльнай вытворчасці, навукі і культуры. Ёсць сярод татараў спевакі, музыканты, таленавітыя артысты-аматары. Квартальнік "Байрам" пачынае знаёміць сваіх чытачоў з гэтымі цікавымі людзьмі.

Сёння мы знаёмім вас са спявачкай па прызванні — Нагімой Галеевай. Скончыўшы Ленінградскую кансерваторыю імя М.А.Рымскага-Корсакава ( 1980 г., клас праф.І.П.Аляксеева ), яна была прынята салісткай у Беларускі дзяржаўны акадэмічны вялікі тэатр оперы і балета, дзе спявае і сёння. Валодаючы багатым, сакавітым меццa-сапрана, выдатнай вакальнай школай, Нагіма Галеева.пяе вядучыя партыі у спектаклях: Любашы ("Царская нявеста" М.Рымскага-Корсакава ), Элен ("Вайна і мір" С.Пракоф"ева ), Амнерыс і Эбалі ( у операх Дж.Вердзі "Аіда" і "Дон Карлас" ) і іншыя.

Шмат працуе Нагіма Галеева над канцэртным рэпертуарам. Асабліва палюбілі слухачы ў яе выкананні рускія старадаўнія рамансы. Нагіма ўдзельнічае ў фестывалях ( апошні — у Кішынёве.), бывае на гастролях у блізкіх і далёкіх замежных краінах. Усюды карыстаецца вялікім поспехам.

У пачатку снежня 1992 г. ў Менску была пастаўлена опера "Царская нявеста" М.Рымскага-Корсакава. Прыемна, што опера на беларускай сцэне жыве актыўна і шматгранна. Майстэрства яе ўдзельнікаў бясспрэчнае — жыццё Русі эпохі Івана Жахлівага "дыхае" на працягу ўсяго спектакля. Таленавіта ўзноўлена атмасфера той пары. Любаша Галеевай — натура складаная, палкая. Неўтаймаваныя пачуцці штурхаюць яе на злачынства, але ў крытычны момант яна здольная на самавыкрыццё. Гэта партыя па-

трабуе ад артысткі вялікага майстэрства, тонкага псіхалагізму. Усё гэта ярка і таленавіта ўвасоблена ў вобразе Любашы Нагімы Галеевай. Цудоўна выконваюць свае ролі ў "Царскай нявесце" ўсе артысты. І пачатковец-наведвальнік тэатра, і самы патрабавальны, заядлы тэатрал пакідаюць залу задаволенымі і ўдзячнымі ўсім, хто данёс да іх гэту цудоўную оперу.

Татары спадзяюцца, што ў час навуковай канферэнцыі, якая адбудзецца ў канцы сакавіка 1993 г. ў Менску, яны пачуюць у канцэртнай праграме голас славутай спявачкі Нагімы Галеевай.

## ХТО БАІЦЦА ЧОРНАГА АЛЬПІНІСТА

Слабы ветрык калыхаў палатку і час ад часу ляскаў поліэтыленавым тэнтам. Здавалася, што нехта ходзіць вакол біваку і нешта шукае.

Двое юнакоў па краях, дзве дзяўчыны пасярэдзіне ляжалі ў палатцы. Было чуваць, як гамоняць суседзі, расказваюць анекдоты і розныя гісторыі з турысцкага жыцця.

— А памятаеш, Влад, — пачуўся голас Шурыка, — як адзін мужык з Масквы расказваў: пайшоў гурт у горы. Усе "чайнікі", толькі кіраўнік "профі". Ён ідзе першы і раптам правальваецца ў расколіну. Астатнія падыйшлі і глядзяць. Ён ім крычыць: "Вяроўку кідайце!". "Чайнікі" ўзялі вяроўку і як была скруткам, так усю і кінулі ўніз.

Пачуўся смех хлопцаў.

Хто быў у горнай вандроўцы, ведае, як цяжка заснуць у першы вечар. Доўга ляжыш і намагаешся заснуць. Баішся лішні раз перакуліцца на другі бок, каб не разбудзіць другіх.

— Алік, ты спіш ? — шэптам спытала Лена.

— Не.

— Скажы, а чаму ў палатцы трэба спаць галавой да выхаду ?

— Гэта я ведаю. Мне расказаў прыяцель у мінулым годзе. І цяпер ніяк не магу забыць гэты расказ. Баюся, што пасля гэтага ты ўжо не заснеш.

— Раскажы, я смелая.

— Ну, тады слухай. Пайшлі некалі ў горы сябры. Яны сябрава-

лі з маленства, разам хадзілі і ездзілі усюды, разам вучылся, аблазілі ўсе кар"еры, узбіраліся на кручы. Але усё ў іх жыцці перавярнула вясна перад апошнім узыходжаннем. Вясна — пара кахання. І яны закахаліся ў адну дзяўчыну — прыгожую, ласкавую, разумную і добрую. Яна таксама пакахала аднаго з хлопцаў. У сэрцы другога пасялілася рэўнасць. Адносіны паміж юнакамі засталіся як быццам такія ж, як былі раней, толькі першага сляпіла шчасце, а другі хаваў сваё пачуццё. Гарачай крывёй аблілося сэрца, калі ён убачыў апошні пацалунак на пероне. Мусіць ужо тады задумаў раўнівец нядобрае для шчаслівага сябрука.

І вось горы. Ланцужок альпіністаў, звязаных двойкамі, пайшоў на пад"ём. Першая двойка, якую складалі сябры і сапернікі, выйшла на грэбень горнага хрыбта. Тут можна было трохі адпачыць, пачакаць таварышаў, адшпіліць карабін і скінуць рукзак. Але д"ябал апанаваў розумам раўніўца. Яго вочы ўпіліся ў чорную штармоўку шчаслівага саперніка. Імгненны штуршок у спіну — і крык былога сябра ў бездані.

Загінуўшы альпініст назаўсёды застаўся ў гарах. Ён шукае здрадніка. Можа каб адпомсціць яму, можа каб толькі паглядзець у вочы. Чорны альпініст заходзіць у кожную палатку, глядзіць у кожны твар. Калі ж хто спіць нагамі да выхаду, таго ён выцягвае надвор. Таму трэба спаць галавой да выхаду.

— Страшная гісторыя, — сказала Лена і прытулілася да мяне.

Турысты,нарэшце, заснулі. Над гарамі цудоўнае зорнае неба. Яно чорнае,як сажа, а зорак так многа і яны такія буйныя, што, здаецца, неба не ўтрымае іх і яны пасыплюцца на зямлю.

...

## ДЗЕД АМУРАТ РАІЦЬ ...

Татарскія юнакі пытаюць пра тое, як паводзіць сябе сярод старэйшых. Мы папрасілі Амурата-агу адказаць на гэта пытанне.

Калі чалавек ачнуўся, то ён павінен сказаць: БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ. Гэтымі словамі ён прывітаў Аллага і усіх людзей. Затым трэба памыцца і прачытаць намаз. Калі чалавек жыве ў кватэры не адзін ( аднаму мусульманіну жыць не раіцца ), то перад снеданнем ён сустрэнецца з людзьмі. Не чакайце, каб з вамі нехта павітаўся, спяшайцеся першым сказаць

Салям алейкум.

Калі вам сустрэнецца чалавек у полі, або калі вы сустрэлі знаёмага чалавека, то павітайцеся першым. Калі вам вядома, што перад вамі мусульманін ці мусульманка, то лепш сказаць Салям алейкум, прыклаўшы сваю далонь да таго месца, дзе сэрца. Можна вітацца і кіўком галавы, прыпадняць галаўны убор.

Старэйшыя вітаюцца за руку, пры гэтым руку падае старэйшы ( калі цяжка вызначыць, хто старэйшы, то працягне руку больш далікатны ). У татар прынята , што малодшы паціскае руку старэйшага двума рукамі. Адкуль пайшоў такі звычай ? Каб субяседнік бачыў, што паціскаючы руку субяседніка, ты нічога не маеш у другой руцэ. Але такое тлумачэнне, вядома, не сур" езнае.

І яшчэ: не сціскайце вельмі моцна далонь субяседніка, калі ў вас няма намеру пакрышыць яму косці і зрабіць калекам. Калі ж вы падаеце руку проста, без поціску, то ці вы вельмі хворы, ці не маеце павагі і добрых пачуццяў да таго, с кім прыходзіцца вітацца.

Дарагія чытачы "Байрама" ! Дасылайце нам пытанні па мусульманскай этыцы. Дасылайце свае парады для малых, маладых і не вельмі маладых. Няхай вашы карысныя веды стануць здабыткам усіх.

| арабская графіка | беларуская графіка | Пашыраныя мусульманскія імёны | |
|---|---|---|---|
| | | паходжанне слова | значэнне слова |
| علی | Алі | арабскае | вышэйшы, магутны |
| عالمه | Аліма | персідскае | дасведчаная |
| عالیة | Алія | арабскае | узнеслая |
| امیر | Амір, Эмір | арабскае | правіцель, правадыр |
| انور | Анвар | арабскае | прамяністы |

ВЕСТКІ РАДАСНЫЯ

Мурат Якубоўскі, наш зямляк, які жыве у Стамбуле, даслаў нам камплект часопісаў на крымскататарскай мове і буквары для цюркскіх дзяцей.

Рамуальд Сабалеўскі, наш зямляк з Познані, даслаў вельмі цікавыя і патрэбныя публікацыі Яна Тышкевіча і Станіслава Крычыньскага па гісторыі татараў.

Аляксандр Якубоўскі з Мядзела падараваў "Аль-Кітабу" вельмі хораша намаляваны мугір.

Добрая жанчына з Менска падаравала нам Кур"ан, які быў надрукаваны у Казані у сярэдзіне 19 стагоддзя.

Невядомы добры чалавек падараваў "Татарскі штогоднік" за 1992 г., надрукаваны у Польшчы, упершыню пасля 1938 г.

Дзякуй вам, добрыя людзі, за ваш прыгожы чын.

...

ВЕСТКІ СУМНЫЯ ...

26 жніўня 1992 г. трагічна загінуў студэнт 3-га курса Беларускага інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі Мустафа Шчансновіч, сын Хадычы і Эміра. Пахаваны на радзіме у Іўі.

11 снежня 1992 г. на 92-ім годзе жыцця памёр Ісмаіл Тальkоўскі, сын Евы і Алі. Нарадзіўся і усё жыцце правёў у вёсцы Камейшы Воранаўскага раёна. Пахаваны у Іўі. Засталіся пляменнікі.

19 снежня на 49-ым годзе абарвалася жыццё рабочага Менскага аўтамабільнага завода Мустафы Карыцкага, сына Мяр"емы і Сюлеймана. Нарадзіўся і пахаваны ў Смілавічах. Засталіся маці, жонка, сыны Аляксандр ( студэнт БДУ ) і Генадзь ( школьнік ).

27 снежня 1992 г. на 96-ым годзе жыцця памёр Мустафа Багдановіч, сын Фуршы і Магамета. Нарадзіўся у Ляхавічах, памёр у Менску, пахаваны на радзіме. Пражыў доўгае і складанае жыццё, быў удзельнікам вялікіх падзей. Засталіся дзеці Бікір, Магамет, Алі, Хадзіма, Тамара, Фарыда. Дачакаўся праўнукаў.

Мусульмане! Прачытайце з Кур"ана суру Я-Сін за памерлых.

Казанскататарская дзіцячая песня

## П И - Б И

Пи-би-би-бип, диде каз бабкасе,
Яхшатланып килгэн сөйлэнэ.
Каз . бэбкэсе, белмим телеңне,
Шуңар булеша элмыйм сереңне.

Каз бэбкэсе, җаным, телең белмим,
Кем өйрэтте болай сөйлэргэ ?
Гаҗэп матур сөйли белэсең,
Анаң уңган каздыр, курэсең.

Пі-бі-бі-біп, пішчыць гусянё,
Лашчучыся, ідзе, балбочучы па-свойму.
Гусянё, не разумею я тваей мовы,
Таму не магу зразумець, што ты хочаш.

Гусянё, даражэнькі, не разумею тваей мовы,
А хто ж навучыў цябе так балбатаць ?
Вельмі добра ты ўмееш размаўляць,
Відаць, мама-гусь у цябе вельмі разумная.



З газеты "Татар иле", № 19 ( 33 ),
кастрычнік, 1992 год

# КАК ШАКИРЗЯН СТАЛ АЛЕКСАНДРОМ МАТРОСОВЫМ

Как известно, биография героя Отечественной войны Александра Матросова до конца не ясна... Мы знаем, что он воспитывался в Уфимском детском доме. Башкирские журналисты, наконец, начали серьезную работу по выяснению жизненного пути земляка-героя. Судя по исследованиям Рауфа Насырова и других журналистов, Александром Матросовым на самом деле был не кто иной, как уроженец аула Кунакбай Учалимского района Шакирзян Юнусович Мухаммедьянов. По разным причинам Шакирзян в малолетнем возрасте вместе со сверстником по имени Газнави уходит из аула, скитается среди беспризорных. Уфимские беспризорные называют Шакирзяна Сашей. Попав в детдом, Шакирзян называется Сашей, по фамилии — Матросов, так как мечтал стать матросом. Перед войной Шакирзян посещает родной аул, называет себя Сашей, говорит только по-русски, щеголяет по улицам в тельняшке. Впоследствии односельчане и сверстники по фотографии узнали героя. Идентичными оказались и фотографии Александра Матросова и Шакирзяна Мухаммедьянова. Шакирзяна узнал и его друг детства Газнави, с которым он когда-то убежал из села. Впрочем, Газнави также записался было русским и принял имя Григорий.

В родном селе героя Кунакбаеве открылся музей Матросова-Мухаммедьянова. В музее среди прочих экспонатов находятся и официальные документы, подтверждающие, что Александр Матросов и Шакирзян Мухаммедьянов одно и то же лицо.

**Н.НАГИМЗЯНОВ.**

Башкортостан

# З М Е С Т

НА ВОКЛАДЦЫ:



СУБГАНА АЛЛАГУ ЎА БІГАМДЗІГІ
СУБГАНА АЛЛАГУ ЭЛЬ-АЗЫМ
УСЯ ХВАЛА І СЛАВА АЛЛАГУ
І ХВАЛА АЛЛАГУ УСЁМАГУТНАМУ

Рэдактарская група: І.Александровіч, Т.Лемешава, Т.Муха,
Т.Панчанка, Г.Фатыхава, Е.Фешчанка.

# БАЙРАМ

Татары на зямлі Беларусі

Квартальнік згуртавання татарау-мусульман на Беларусі
"Аль-Кітаб"

№ 4, 1992

Падпісана у друк 08.02.93. Фармат 60x84 1/16. Папера друк.
№ 2. Афсетны друк. Ум.друк. арк. 5,75 (5,35). Ул.-выд. арк.
4,5. Тыраж 300 экз. Заказ, 87.

Ратапрынт МДПІ імя А.М.Горкага, 220809, г.Мінск, вул. Савецкая, 18.